4 красавіка 2014 | № 13 (382)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144



# У ролі сапсаванага тэлефона

**«Пасярэднікі — гэта крывое люстэрка і сапсаваны тэлефон. Таму я ненавіджу пасярэдніцтва!» — катэгарычна заявіў Аляксандр Лукашэнка ў інтэрв'ю Савіку Шустэру з нагоды ўкраінскіх падзеяў. Але выглядае на тое, што Аляксандр Рыгоравіч пагадзіўся пабыць у ролі «сапсаванага тэлефона».**



Сяргей ПУЛЬША



Украінскія ўлады даволі балюча адрэагавалі на ранейшыя словы кіраўніка Беларусі, што «Крым — дэ-факта Расія». Непрыемнасцю (але наўрад ці нечаканасцю) стала і тое, што Беларусь падтрымала Расію ў ААН падчас галасавання па статусе Крыма. У выніку, і адмысловае інтэрв'ю праграме «Шустэр live», і сустрэча з выконваючым абавязкі прэзідэнта Украіны Аляксандрам Турчынавым — усё было скіравана на тое, каб «змякчыць» ноту канфлікту паміж Беларуссю і паўднёвай суседкай.

Праграма «Шустэр live» прайшла пад адным дэвізам: ва ўсім вінаватыя мінулыя ўлады Украіны і сродкі масавай інфармацыі. Таксама варта зазначыць, што падчас сустрэчы ў Гомельскай вобласці Аляксандр Рыгоравіч некалькі разоў назваў Турчынава прэзідэнтам, хаця той — усяго толькі «выконваючы абавязкі». З аднаго боку, гэта імкненне завысіць статус пераможцы, неяк усцешыўшы яго, з іншага — спроба патлумачыць папярэднія выказванні. Маўляў, калі «Крым — дэ-факта Расія», то і Турчынаў — дэ-факта прэзідэнт.

Згодна з даволі сціслымі паведамленнямі з сустрэчы двух кіраўнікоў у Ляскавічах, Лукашэнка даў украінскаму боку гарантыі таго, што беларускія войскі не будуць удзельнічаць у актах агрэсіі супраць Украіны, і Беларусь не стане той тэрыторыяй, з якой магчымы напад на нашу суседку «трэціх краінаў». Гэта галоўны вынік сустрэчы Лукашэнкі з Турчынавым для ўкраінскага боку. А вынік для беларускага боку? Акрамя таго, што Лукашэнка «лепей зразумеў сітуацыю», яго, пэўна, і не было.

Больш падрабязна пра Расію Лукашэнка расказаў у «Шустэр live». Па словах беларускага кіраўніка, падчас крызісу ва Украіне ён размаўляў з Пуціным не тое што амаль штодзённа, але іншым разам і два разы на дзень. І, калі анексію Крыма беларускі правадыр «прашляпіў», то зараз «адказна» заявіў Шустэру: «Прэзідэнт Пуцін не мае намераў ісці далей».

Усё гэта азначае, што, карыстаючыся тэрміналогіяй Лукашэнкі, дэ-факта ён, пры ўсёй нянавісці да пасярэдніцтва, стаў пасярэднікам у расійска-ўкраінскім канфлікце. Наўрад ці ён мог даць гарантыі ненападу на Украіну з беларускай мяжы аднаасобна: інакш навошта тады АДКБ? Такія гарантыі можна даваць толькі тады, калі ў краінах — сябрах ваеннага блоку (АДКБ, ізноў жа дэ-факта, ім і з'яўляецца) выпрацаваны нейкі механізм дзеянняў у адносінах да «верагоднага суперніка». І відавочна, такія гарантыі можна даць у тым выпадку, калі «Пуцін вырашыў спыніцца».

Увогуле, размаўляць ад імя Пуціна — справа, канешне, няўдзячная. Тым не менш, красамоўна тое, што словы Лукашэнкі расійскі бок не аспрэчваў. Так, Пуцін не мог заявіць у адказ: «Я вырашыў не спыняцца», але, калі б кіраўнік Беларусі такім чынам «сваявольнічаў», то Крэмль бы вуснамі якога-небудзь прэс-сакратара абавязкова што-небудзь сказаў бы пра «прыватнае меркаванне Аляксандра Рыгоравіча». Але зараз — маўчок.

> **Размаўляць ад імя Пуціна — справа няўдзячная**

Варта пагадзіцца з тым, што калі Аляксандр Лукашэнка — гэта «сапсаваны тэлефон» паміж уладамі Расіі і Украіны, то лепшага «сапсаванага тэлефона» знайсці цяжка. Спроба «ўладкавацца на двух крэслах» паміж Расіяй і Украінай у «крымскім канфлікце», падтрымліваючы адначасова і адзін, і другі бок, скончылася тым, што Лукашэнка стаўся самым аб'ектыўным і вартым даверу пераможцам. Нават далёкія ад гэтага канфлікту кітайцы і японцы не маглі б быць лепшымі пасярэднікамі, бо яны маюць тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Расіі, якія зараз, у выніку анексіі Крыму, таксама могуць вырашаць «дэ-факта».

Баланс пераможцы падтрымліваецца і эканамічнымі інтарэсамі. Вядома, што Беларусь моцна залежыць ад Расіі. Але і добрыя адносіны з Украінай не менш істотныя. Тут важна нават не тое, што тавараабарот у мінулым годзе склаў 6,25 мільярда долараў, а тое, што сальда ў гэтым тавараабароце — на нашу карысць. Беларускі экспарт ва Украіну перавысіў імпарт з яе на 2,14 мільярда долараў, а такімі грашыма не раскідваюцца.

Сціслыя паведамленні з сустрэчы Лукашэнкі з Турчынавым, хутчэй за ўсё, засталіся такімі, таму што Аляксандр Рыгоравіч перадаваў украінскаму калегу нейкія прапазіцыі Расіі. Па вядомых прычынах, украінскае і расійскае кіраўніцтва не можа іх вырашыць сам-насам, а праблемаў багата. Найгалоўнейшыя з іх — газавыя і нафтавыя кантракты, а таксама праблема расійскай уласнасці ва Украіне (адзін мабільны аператар МТС чаго варты), і такая ж праблема ўкраінскай уласнасці ў Расіі.

Пасярэдніцтва ў расійска-ўкраінскім канфлікце можа шмат чаго даць Беларусі. Па-першае, канешне, паралельна вырашацца і свае пытанні — таго ж гандлю і тавараабароту. І па-другое, такія «пасярэдніцкія дзеянні», як спадзяецца Лукашэнка, ёсць і нейкай кароткатэрміновай гарантыяй бяспекі Беларусі.

Гаворачы ў «Шустэр live» пра сваё дыктатарства, беларускі правадыр агаварыўся: для таго, каб быць дыктатарам, трэба быць Сталіным, мець СССР і ядзерную зброю. «Тады можна дыктаваць, і дыктат камусьці навязваць. Але мы сваё места выдатна ведаем пад сонцам Беларусі. Нам не да дыктоўкі, нам бы сваё не аддаць, абараніць», — сказаў ён.

На прыкладзе Крыму Лукашэнка заклапаціўся тым, каб «сваё абараніць». І пакуль разлік на тое, што «пераможцаў не б'юць».

# Алесь Бяляцкі — «Абаронца грамадзянскіх правоў года»

**Кіраўнік ПЦ «Вясна» і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека Алесь Бяляцкі стаў лаўрэатам узнагароды «Абаронца грамадзянскіх правоў года». Пра гэта 2 красавіка паведаміла шведская праваабарончая арганізацыя Civil Rights Defenders.**

Назваўшы імя ўладальніка ўзнагароды, арганізацыя адзначае, што больш за 30 гадоў свайго жыцця Алесь Бяляцкі прысвяціў беспярапыннай барацьбе за дэмакратыю і правы чалавека, спачатку ў СССР, а затым у Беларусі.

«Алесь з'яўляецца адным з адзінаццаці палітычных зняволеных, якія ўтрымліваюцца ў зняволенні беларускім рэжымам, які часта называюць «апошняй дыктатурай Еўропы». Ён быў асуджаны да 4,5 гадоў пазбаўлення волі за ўхіленне ад выплаты падаткаў у выніку судовага працэсу з выразным палітычным падтэкстам. Арыштаваны 4 жніўня 2011 г. З гэтага часу ўтрымліваецца ў турме і пазбаўлены магчымасці свабодных зносін з навакольным светам. Будучы кіраўніком вядучай праваабарончай арганізацыі краіны «Вясна», Алесь Бяляцкі з'яўляецца цэнтральнай фігурай у беларускай грамадзянскай супольнасці», — нагадала Civil Rights Defenders.

Намеснік старшыні «Вясны» Валянцін Стэфановіч адзначае: «Для Алеся важна атрымліваць такое прызнанне. Ён моцны і сардэчны чалавек, надзвычай захоплены ідэямі дэмакратыі і правоў чалавека. Такая знешняя падтрымка, як гэтая ўзнагарода, на доўгі час умацоўвае яго і ўсіх сябраў «Вясны», а таксама натхняе на працяг змагання за дэмакратычную Беларусь. Дамагчыся працяглых і ўстойлівых зменаў можна толькі з дапамогай цікі знешняга свету. Мне было сапраўды прыемна напісаць ліст Алесю і паведаміць яму пра ўзнагароду. На жаль, я не ведаю, ці дайшоў гэты ліст, паколькі мы дасюль не атрымалі адказу».

З часу стварэння «Вясны» ў 1996 годзе, Алесь затрымліваўся і арыштоўваўся больш за 20 разоў. Многія з гэтых выпадкаў былі звязаныя з дробнымі парушэннямі, такімі, як раздача асобнікаў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

«Судовы працэс па справе Алеся Бяляцкага быў распачаты, нягледзячы на міжнародныя пратэсты і патрабаванні яго вызвалення. Пераслед Алеся быў наўпрост звязаны з яго праваабарончай дзейнасцю, а прысуд служыць папярэджаннем для ўсёй беларускай грамадзянскай супольнасці», — кажа Роберт Хорд, дырэктар Civil Rights Defenders.

Раней Алесь быў ушанараваны некалькімі іншымі ўзнагародамі, у тым ліку шведскай прэміяй «Per Anger», прэміямі імя Андрэя Сахарава і «Homo Homini». Ён быў двойчы намінаваны на Нобелеўскую прэмію міру ў 2006 і 2007 гадах.

Прэмія Civil Rights Defenders «Абаронца грамадзянскіх правоў года» ўручаецца 4 красавіка, у дзень забойства доктара Марціна Лютэра Кінга. Прэмія прысуджаецца падчас штогадовай канферэнцыі Civil Rights Defenders «Дні праваабаронцаў» у Стакгольме, на якую збіраюцца праваабаронцы з усяго свету. Алесева калега Тацццяна Равяка і яго жонка Наталля Пінчук запрошаны ў Стакгольм, каб атрымаць узнагароду ад яго імя.

**spring96.org**

# Чарговы студэнт адлічаны за грамадскую актыўнасць

**З інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта адлічаны яшчэ адзін актыўны студэнт, сябра Руху «За Свабоду» — Мікіта Семяненка.**

Па версіі кіраўніцтва інстытута, адлічэнне адбылося за акадэмічную непаспяховасць, бо Мікіта не здаў залік.

Сам хлопец настойвае, што менавіта яго актыўная грамадзянская пазіцыя стала сапраўднай прычынай: «Выезды за мяжу, удзел у мясцовых выбарах і мая актыўная палітычная пазіцыя, што тычыцца назірання ў Беларусі і за мяжой, паўплывалі на маё адлічэнне. Выйшла так, што па замежнай літаратуры ў мяненазбіралася нейкая колькасць «энак». І выкладчык на мяне пакрыўдзіўся, падумаў, што я яго не паважаю, сказаў, што я залік не атрымаю, бо «па ўсялякіх Вільнях раз'язджаю».

«Відавочна, што рэпрэсіўная сістэма ў дачыненні да актыўных студэнтаў працягвае дзейнічаць, — заўважае намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч. — Зараз яна набірае больш выварныя формы. Кіраўнікі беларускіх ВНУ разумеюць, што адлічаны студэнт не застанецца без дапамогі, ён можа быць уладкаваны на вучобу ў адну з еўрапейскіх ВНУ, пераду сім, па праграме Каліноўскага. Таму яны стараюцца ўсялякім чынам не дапусціць найперш раскрыцця інфармацыі пра падобныя выпадкі з выключэннем студэнтаў. Па-другое, таго, каб студэнт з'ехаў з краіны і ўладкаваўся».

Таму, паводле Юрася Губарэвіча, Рух «За Свабоду» лічыць неабходным агалошваць такія факты ціску на палітычна актыўную моладзь, і забяспечыць працяг навучання рэпрэсаваным студэнтам — за мяжой.

**Радыё «Рацыя»**

# Калапсоідныя ўлады

Генадзь КЕСНЕР

**«Чым дурней — тым цікавей!» — такі лозунг узялі на ўзбраенне айчынныя ўладатрымальнікі. Высілкі чыноўніцтва час ад часу даводзяць звычайных людзей да істэрыкі, а краіну — да мяжы калапсу ў канкрэтных асобна ўзятых выпадках.**

Вечар апошняга дня сакавіка на станцыях мінскага метрапалітэна нагадваў галівудскія фільмы пра апакаліпсіс. У вестыбюлі станцыяў сталічнай падземкі было не ўбіцца. Усё тлумачылася вельмі проста — ад 1 красавіка, і гэта не жарт, на 700 айчынных рублёў даражэў праезд у мінскім грамадскім транспарце (да 3 700 рублёў).

Натуральна, напярэдадні люд паспаліты стаў у чэргі, каб хоць крыху зэканоміць на транспартных выдатках. Справа ў тым, што жэтончыкі, талончыкі і праязныя да 24.00 31 сакавіка прадаваліся яшчэ па старых коштах, а ўжо хвілінаю пазней — па новых, істотна большых. Таму і ўзніклі чэргі да касаў метрапалітэну, нібы ў маўзалей камуністычнага правадыра за савецкім часам.

Напрыклад, у вестыбюлі станцыі метро «Пятроўшчына» у 22.10 31 сакавіка ў чарзе па танны праезд стаялі сотні людзей. Прычым, з пяці касаў пасля 22.00 працавалі толькі дзве. Пытанне: каму гэта патрэбна і каго навучыў прыклад, калі кошты на праезд мяняліся мінулым разам і калі ўзнік такі ж самы ажыятаж? Ведаючы, што будуць натоўпы на станцыях метро, чаму ж чыноўнікам не было прыняць рашэнне працягнуць працу касаў?

Ім, відаць, клопаты пра народанасельніцтва патрэбныя, як зайцу стоп-сігнал. Хіба вылашчанаму ва ўсіх сэнсах сталічнаму мэру Ладуцьку цікава, колькі высілкаў і здароўя каштуюць людзям, часам далёка не маладым, гадзінныя стаянні ў чэржышчах, каб зэканоміць хоць крышачку ва ўмовах пражывання-існавання ў «сацыяльна арыентаванай дзяржаве»?

Ці вось новая сістэма аплаты праезду ў мінскім наземным транспарце. Панатыкалі гэтых валідатараў (слова ж якое!), якія 1 красавіка часта не працавалі. Кандуктары-кантралёры самі не ведаюць, як сябе паводзіць і што рабіць у такіх выпадках. Перасоўванні пасажыраў у аўтобусах-тралейбусах нагадвалі зранку броўнаўскі рух: хтосьці паспяшаўся залезці ў транспарт, потым узгадваў, што трэба на ўваходзе «прыкласціся» да валідатара, і рушыў назад, перашкаджаючы іншым. І гэтак кожны другі пасажыр. Ну, Божа ж мой, як практычна і зручна ўсё зроблена!

А мо, такім чынам з транспартнымі выбрыкамі ўладатрымцы сёлета вырашылі адзначыць сваё прафесійнае свята — 1 красавіка?

# Права на пікеты — доўгі судовы працэс

Марат ГАРАВЫ

**1 красавіка суддзя суду Бабруйскага раёна і горада Бабруйск Віялета Закржэўская правяла папярэдняе пасяджэнне па разгляду скаргі пенсіянерак Валянціны Каваленкі і Любові Санкевіч, якія абараняюць у судзе свае права на правядзенне пікетаў.**

Пра гэта паведаміла «Новаму Часу» жыхарка Бабруйску Валянціна Каваленка. Акрамя прадстаўнікоў Бабруйскага гарвыканкаму ў пасяджэнні ўдзельнічала старэйшая памочніца пракурора Бабруйска Алеся Леўшукова.

Нагадаем, жанчыны меркавалі правесці акцыю 15 сакавіка, у Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, каб прыцягнуць увагу грамадства да парушэння грамадзянскіх правоў заяўніц і вырашыць набалелую праблему адпісак з дзяржаўных структураў і ад дэпутатаў парламенту на свае скаргі і скаргі сваякоў. А паколькі чыноўнікі і парламентарыі праігнаравалі інтарэсы людзей, жанчыны збіраліся выйсці на пікет з плакатамі: «У Канстытуцыі правы і свабоды на паперы, а нам яны патрэбныя ў жыцці!» , «Чыноўнікі кіруюцца не Канстытуцыяй, а панясцямі», «Чыноўнікі і дэпутаты схаваліся ад народа за плотам адпісак».

Валянціна Каваленка падкрэсліла, што яны з Любоўю Санкевіч у трэці раз запар вымушаныя былі сысці з залы судовых пасяджэнняў, бо суддзя Віялета Закржэўская не дапусціла ў працэс прадстаўніка заяўнікаў (раней двойчы — 27 студзеня і 3 лютага — гэта рабіла мясцовая суддзя Марына Шалягіна), нягледзячы на тое, што суду былі перададзеныя натарыяльна засведчаныя даверанасці.

Каваленка нагадала, што згодна з артыкулам 62 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, яна ў любы момант мае права на юрыдычную дапамогу свайго прадстаўніка ў судзе і іншых дзяржаўных органах. «Але нам з Любоўю Санкевіч суд у такой дапамозе сістэматычна адмаўляе. Такім чынам, суд парушае адно з нашых канстытуцыйных правоў — права на юрыдычную дапамогу, якое можна параўнаць з правам на ахову здароўя», — сказала заяўніца.

На яе меркаванне, падчас судовага пасяджэння Алеся Леўшукова не выконвала свае прамыя абавязкі за наглядам законнасці, а разам з судом і прадстаўнікамі гарвыканкама парушала асноўны закон краіны. «А калі на пачатку суду суддзя Віялета Закржэўская дэманструе непавагу да Канстытуцыі Беларусі, дык разлічваць на законнае і справядлівае судовае рашэнне не выпадае. Таму няма аніякага сэнсу ўдзельнічаць у гульнях суду, прадстаўнікоў выканаўчай улады і пракуратуры», — заявіла пенсіянерка.

Ты не менш, заяўніцы 9 красавіка збіраюцца з'явіцца на асноўнае пасяджэнне суду, каб зноў паспрабаваць адстаяць свае правы, нават калі ў падтрымку чыноўнікаў з'явіцца АМАП.

Дарэчы, пасля таго, як гарадскія ўлады у чарговы раз адмовілі заяўніцам у правядзенні 28 сакавіка пікетавання ў цэнтры Бабруйску, Валянціна Каваленка і Любоў Санкевіч 31 сакавіка абскардзілі ў судзе і гэтую адмову.

«Мы лічым, што як мага больш людзей павінны ведаць рэальны стан беларускай судовай сістэмы і яе залежнасць ад выканаўчай улады. Вось чаму мы будзем зноў і зноў звяртацца у суд», — сказала Валянціна Каваленка.

# Амаль 4 мільёны — за ўкраінскі сцяг

**На 25 базавых велічынь кожны аштрафаваны гарадзенскія грамадскія актывісты, праваабаронцы Віктар Сазонаў, Раман Юргель і Уладзімір Хільмановіч за фатаздымкі з украінскім сцягам у розных гістарычных мясцінах Гродна.**



Суд палічыў гэта ўдзелам у масавай несанкцыянаванай акцыі. Пра гэта «Новаму часу» паведаміў Віктар Сазонаў.

Актывістаў выклікалі ў Ленінскі РАУС Гродна для складання пратаколаў. Пасля таго, як былі складзены пратаколы, адразу ў памяшканні РАУС пачаўся выязны суд. У выніку усіх трох актывістаў аштрафавалі на 3 мільёны 750 тысяч беларускіх рублёў.

Нагадаем, гродзенскія праваабаронцы Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч і Раман Юргель 25 сакавіка сфатаграфаваліся з беларускай і ўкраінскай сімволікай у некалькіх гістарычных мясцінах Гродна і змясцілі гэтыя здымкі ў інтэрнэце. Такім чынам яны ўшанавалі Дзень Волі і выказалі салідарнасць з украінскім народам.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Ізноў абрабавалі

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Наш народ даволі кансерватыўны: калі ўжо што аднойчы залезла ў галаву, дык выбіць гэта адтуль даволі цяжка. Напрыклад, шмат хто дагэтуль называе «базавую велічыню» «мінімалкай». Але сёлета беларускі ўрад, пэўна, у межах праграмы павышэння эканамічнай пісьменнасці насельніцтва (ёсць у нас і такая дзяржаўная праграма) вырашыў выбіць такую забабону самым простым спосабам — у чарговы раз ударыўшы па кішэні грамадзян.**

Што тычыцца базавай велічыні, то з 1 красавіка яна вырасла на 20 тысяч рублёў і склала 150 тысяч замест 130. Што гэта азначае на практыцы? На практыцы гэта азначае, што ў нас выраслі пляцяжы, прыроўненыя да «базавай». Напрыклад, штраф за безбілетны праезд складае зараз 75 тысяч рублёў замест ранейшых 65 тысяч. Рэгістрацыя шлюбу таксама стала зараз 150 тысяч замест 130, істотна падаражэла скасаванне гэтага шлюбу — замест 390 тысяч стала 450. Павялічыліся штрафы для кіроўцаў і парушальнікаў грамадскага парадку. І, адпаведна, узляцелі ўверх розныя кошты.

Гэтым разам амаль без папярэджання ўзрос кошт праезду ў грамадскім транспарце ў Мінску — з 3 000 рублёў да 3 700. Праўда, у сувязі з пераходам на глючную электронную сістэму аплаты за праезд гэта мала хто заўважыў: мінчане лаяліся, у асноўным, на непрацуючую тэхніку. Але павышэнне кошту на праезд склала больш чым 20% за раз!

Падаражэў праезд і ў электрычках. Тарыф на праезд на рэгіянальных лініях эканом-класа ўзрос аж на трацiну — на 33,3% — да 1200 рублёў за адну зону праезду і да 120 рублёў за 1 кіламетр праезду. Кошт праезду на цягніках гарадскіх ліній павышаны на 32% (да 6600 рублёў) пры перавозцы пасажыраў у межах аднаго тарыфнага пояса, на 30% (да 7 800 рублёў) пры перавозцы пасажыраў у межах двух тарыфных паясоў, на 30,9 % (да 11 400 рублёў) у межах трох і на 30% (да 15 600 рублёў) у межах чатырох тарыфных паясоў.

Акрамя таго, 25–33% павялічаны тарыфы на правозкі багажу на гарадскіх, рэгіянальных і міжрэгіянальных лініях.

У сярэднім на 18% павысіўся кошт праезду і ў прыгарадных аўтобусах. Тарыфы на праезд у аўтобусах агульнага тыпу на звычайных маршрутах устаноўлены ў памеры 488 рублёў за 1 кіламетр, з мяккімі адкіднымі сядзеннямі — 504 рубля за 1 кіламетр. На хуткасных маршрутах у аўтобусах агульнага тыпу тарыфы павышаны да 634 рублёў за 1 км, з мяккімі адкіднымі сядзеннямі — да 656 рублёў за 1 км, на дадатковых маршрутах у аўтобусах агульнага тыпу — да 658 рублёў за 1 км, з мяккімі адкіднымі сядзеннямі — да 680 рублёў за 1 км, на экспрэсных маршрутах — да 732 і 756 рублёў адпаведна.

Гэта вельмі дзіўнае павышэнне, невядома з чым звязанае. Бензін і іншае паліва ў нас, падаецца, не даражэлі, а звязваць павелічэнне «базавай» з павелічэннем кошту праезду — глупства. Бо і «базавая», і праезд б'юць па кішэні грамадзяніна аднолькава — «у мінус».

Але асабліва я б адзначыў тое, што ў «самай сацыяльнай у свеце дзяржаве» ўрад вырашыў больш не карміць дзяцей у дзіцячых садках. «У цяперашні час утрыманне дзіцяці ў садку абыходзіцца дзяржаве ў 1,5 мільёна беларускіх рублёў. Бацькі ж кампенсуюць толькі 20%», — сказалі ва ўрадзе, і з 1 красавіка бацькі будуць аплачваць поўны кошт набору прадуктаў харчавання для дзіцяці. Пасля ўступлення ў сілу гэтай пастановы аплата за дзіцячы садок павялічыцца ў сярэднім на 150 000 рублёў.

«Дадзеныя сродкі пойдуць на павелічэнне зарплаты работнікам дашкольнай установы», — запэўніў урад. Але выхавацелька майго дзіцёнка сцвярджае — ніякага павышэння заробкаў і не плануецца. Проста таму, што прадуктамі дзіцячага садка распараджаецца, як ні дзіўна, не дзіцячы садок. Дзіцячы садок — гэта выхавацелькі і педагогі, а прадукты — «грамадскае харчаванне». Навошта так падманваць і бацькоў, і педагогаў? Пэўна, таму, што бацькі не супраць, каб іх грошы ішлі выхавацелькам, але, канешне, супраць, каб на гэтым зарабляў наскрозь карумпаваны «грамхарч».

Але не, не кінула нас родная «сацыяльная дзяржава»! Калі ж кошты павысіліся, то трэба ж тэтае павышэнне нечым кампенсаваць? І вось урад паклапаціўся пра павышэнне так званага «мінімальнага заробку». Зараз такім можна лічыць тарыфную стаўку першага разраду, якая з 1 красавіка ў Беларусі павышаная, узрадавала нас прэс-служба ўрада.

Пры павышэнні коштаў на 20%, тарыфная стаўка першага разраду павышаецца аж на дзве (!) тысячы (!!) рублёў!!! Была 260 тысячаў, стала 262 тысячы. Вось як пра нас падумалі! Зараз на гэтыя дзве тысячы можна купіць крыху больш за палову талончыка на праезд, альбо каля 100 грамаў хлеба, альбо каля 150 мілілітраў малака. Затое запалак можна набыць аж 8 карабкоў!

Але гэтае павышэнне, абяцаюць нам, не канчатковае. Яшчэ адно павышэнне тарыфнай стаўкі будзе ў маі. І нам зноўку дадуць шалёныя грошы — аж 8 тысяч рублёў. Гэта ўжо не луста хлеба, а паўбохана, і не паўшклянкі малака, а цэлая бутэлька! Вось радасці будзе!

А пасля ўсіх гэтых навінаў і навацыяў начальнік упраўлення дэмаграфічнай статыстыкі Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі Руслан Урублеўскі чамусьці дзівіцца: чаму гэта працягласць жыцця ў Беларусі саступае сярэднееўрапейскім паказчыкам?

Чаканая працягласць жыцця ў беларускіх мужчын — 67,1 года, у жанчын — 77,6 года. То бок, розніца ў працягласці жыцця мужчын і жанчын склала 10,5 года. У развітых краінах такая розніца складае 5–6 гадоў, адзначыў Урублеўскі. Верагоднасць памерці ў мужчын ва ўсіх узроставых групах вышэй, чым у жанчын, але асабліва вялікая гэтая розніца ў працаздольных узростах.

Пэўна, мы не дацягваем і не будзем дацягваць да сярэднееўрапейскіх паказчыкаў працягласці жыцця. Першая з іх: нашу «сацыяльную дзяржаву» можна назваць «сацыяльнай» толькі ў тым сэнсе, што яна ставіць над сваімі грамадзянамі сацыяльныя эксперыменты. Кшталту, павысіць выдаткі грамадзянаў на 20 тысяч, а заробкі — усяго на дзве. І паглядзець, а хто ж выжыве ў такіх умовах? Ну і другая прычына, што ў выніку гэткіх сацыяльных эксперыментаў нашае жыццё жыццём назваць цяжка. Гэта, хутчэй, выжыванне…

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Пётр Пракаповіч



**Па меркаванні некаторых фінансавых аналітыкаў, 72-гадовы «стваральнік дэвальвацыяў» Пётр Пятровіч Пракаповіч рыхтуецца да сыходу на пенсію.**

Пра падобны паварот у лёсе віцэ-прэм'ера, на думку «Агенцтва фінансавых навінаў», сведчаць некалькі фактаў.

Па-першае, Пракаповіч стаў занадта рэдка з'яўляцца ў СМІ, улічваючы, што ён займае больш за 20 розных пасад. Па-другое, урад ужо пачаў рыхтаваць тэхнічныя рашэнні па замене Пракаповіча. Літаральна на днях сумеснай пастановай Саўміна і Нацбанка Пракаповіч вызвалены ад пасады прадстаўніка дзяржавы ў органах кіравання ААТ «БПС-Ашчадбанк», а замест яго прызначаны намеснік міністра эканомікі Антон Кудасаў. Па-трэцяе, ніхто не забыўся, як на адной з нядаўніх нарадаў Пракаповіч запярэчыў Лукашэнку фразай: «Трэба быць рэалістамі», і раскрытыкаваў якасць прадукцыі асноўных прамысловых прадпрыемстваў краіны.

## Мікалай Ладуцька



**Мэру Мінска Мікалаю Ладуцьку трэба адпачыць. Пра гэта на нарадзе па будаўніцтву значных аб'ектаў у Мінску заявіў старшыня КДК Беларусі Аляксандр Якабсон.**

«Ну і што вы мне як галоўны кантралёр краіны, правая рука прэзідэнта прапануеце яшчэ падпісваць нейкія новыя дакументы, пераносіць, ссоўваць тэрміны? Можа быць, Ладуцька ўжо стаміўся там?» — задаў пытанне Аляксандр Рыгоравіч.

Якабсон сказаў, што Мікалай Ладуцька цалкам аддаецца справе, але яму неабходна змяніць стыль сваёй працы. «Я яму гэта ўжо рэкамендаваў. Ён усё бярэ на сябе, не ўмеючы пераразмяркоўваць функцыі сярод сваіх падначаленых, і не паспявае», — адзначыў старшыня КДК.

Куды ж тут паспееш? На той жа нарадзе Ладуцька даклаў Лукашэнку пра пусканаладачныя работы ў мінскім аквапарку «Лябяжы»; распавёў аб завяршэнні будаўніцтва новага будынка Музея Вялікай Айчыннай вайны; будаўнічых работах на вялікай кольцасці спартыўных аб'ектаў рэспубліканскага значэння, сярод якіх — цэнтр фрыстайла і стадыён «Дынама»; канцэпцыі будаўніцтва Нацыянальнага футбольнага стадыёна на тэрыторыі, прылеглай да стадыёна «Трактар», і гэтак далей. І ўсё гэта — на кантролі ў Ладуцькі. Не дзіва, што нават кантралюючыя органы са спачуваннем ставяцца да мэра. Калі ён «зляжа» — без яго ўсё спыніцца.

## Аляксандр Мілінкевіч



**Лідар Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч на пасяджэнні Еўранэст заявіў, што неўзабаве можа з'явіцца новае акно магчымасцяў у адносінах Беларусі і ЕС.**

«Неабходна працягваць дзейнасць згодна з парадкам дня, пазначаным на Віленскім саміце Усходняга партнёрства: візавыя пытанні, ахова межаў, абмеркаванне мадэрнізацыі і гэтак далей. Упершыню за многія гады сфарміраваны такі канструктыўны парадак дня. Нельга дапусціць, каб каляўкраінскія падзеі яго паламалі», — заявіў Мілінкевіч.

Ён запэўніў, што Беларусь «заняла добрасуседскую палітыку адносна Украіны». «У прыватнасці, прызнана новая ўлада і робіцца спробы прапанаваць пасярэдніцтва паміж Кіевам і Масквой. Гэта ёсць праява правядзення незалежнай палітыкі, таму не трэба ізаляваць Беларусь разам з Расіяй», — заклікаў палітык.

Па-першае, адносіны Беларусі і ЕС наўрад ці залежаць ад канфлікту Расіі з Украінай, а таму ізаляваць Беларусь разам з Расіяй ніхто і не збіраўся. Па-другое, што прызнаў і сам Мілінкевіч, не вырашана фундаментальнае пытанне — пытанне вызвалення палітвязняў. Без яго вырашэння ніякае «вакно магчымасцяў» адкрыцца не можа ані на міліметр. Па-трэцяе, мясцовыя выбары былі самымі горшымі за мінулыя гадоў 10, па-чацвёртае, няма аніякага прагрэсу ў пытанні адмены смяротнага пакарання… Тым і вылучаецца Аляксандр Мілінкевіч, што заўважае магчымасці там, дзе іх ніхто не бачыць.



# Шэсць фактараў для барацьбы з імперыяй

Алег ПАНФІЛАЎ,
спецыяльна для НЧ

**Перамагчы імперыю можна толькі тады, калі саспелі шэсць фактараў, неабходных для барацьбы з ёй. І самы важны фактар шосты — антыкрамлёўскі. Украіне яшчэ давядзецца змагацца за сваю рэвалюцыю, але галоўнае зроблена — шосты фактар прынёс вынік.**

Адразу пасля грузінскай «рэвалюцыі руж» я праводзіў трэнінг для маладых кыргызскіх журналістаў, і сярод іх апынуліся некалькі чалавек, якія цікавіліся тым, што адбылося ў Тбілісі. Распавёў, што ведаў, але мяне здзівіла пытанне самага настырнага: «А мы ў Кыргыстане так зможам?» Я адказаў, што не. «Чаму?» — пакрыўджана спытаў настырны. «Вы не грузіны», — знайшоўся я.

Мне потым давялося шкадаваць пра тое, што мог пакрыўдзіць чымсьці маладога чалавека, які, крый Божа, падумаў, што грузіны маглі быць лепш за кыргызаў. Але ўжо 10 гадоў мы сябруем, і тое пытанне стала толькі нагодай для ўспамінаў, якую мы выкарыстоўваем падчас размоў пра лёсы постсавецкіх тэрыторый. А для мяне — і чыннікам, каб падумаць пра прыроду «каляровых рэвалюцый».

Зразумела, я не прымаю версію заходняй змовы, якая выгодная крамлёўскім прапагандыстам, што спрабуюць прынізіць жаданне народаў паспрабаваць жыць самастойна, не ў імперыі. Раней прыдумлялі зневажальныя мянушкі — «басмачы», «белякі», «бандэраўцы» (зноў актуальна), але прапагандысцкія тэрміны працавалі толькі нейкі час, іх забывалі ці яны трансфармаваліся. Пра «бандэраўцаў» зноў успомнілі — апынулася, іх па-ранейшаму ненавідзяць у Расіі, але ва Украіне імі зараз ганарацца.

Але як бы ні старалася крамлёўская прапаганда, гістарычная памяць нашмат мацней і больш стабільная, чым часовыя лозунгі. Пасля распаду СССР памяць пачала даваць пра сябе ведаць усё часцей і часцей — адкрыліся межы, з'явіўся інтэрнэт, людзі пачалі мець зносіны, атрымліваць інфармацыю, якая раней была пад цэнзурай, нарэшце, людзі пачалі думаць.

Якія ж фактары ўплываюць на «каляровыя рэвалюцыі»?

## 1 Першы фактар — гісторыя дзяржаўнасці

На постсавецкай прасторы толькі нешматлікія краіны могуць пахваліцца тым, што знаходзяцца ў межах сваёй гістарычнай тэрыторыі, гістарычнай дзяржавы, якая паўстала не менш, чым некалькі стагоддзяў таму.

Гэтым адрозніваецца Грузія, нягледзячы на тое, што ў розныя перыяды падвяргалася нападам і была часткай некалькіх гістарычных імперый. У Цэнтральнай Азіі межы сучасных дзяржаў штучныя, яны акрэслены таварышам Сталіным. На Каўказе, акрамя Грузіі, тая ж сітуацыя — сучасныя Арменія і Азербайджан, што да таго былі часткамі Персіі ці невялікімі ханствамі, залежалі ад буйнейшых суседзяў. Амаль падобная гісторыя ва Украіне, Малдове і Беларусі, якія на розных этапах часткова ці цалкам уваходзілі ў склад ранейшых імперый.

## 2 Другі фактар — традыцыі палітычнай культуры

Пасля 1917 года амаль усе цяперашнія постсавецкія дзяржавы спрабавалі вызваліцца ад загінулай Расійскай імперыі і жыць самастойна. Нават у Бухарскім эміраце, пратэктараце імперыі, партыя джадзідаў, «маладабухарцаў», пад уплывам сацыял-дэмакратычных ідэй напісала праграму ўтварэння Бухарскай Народнай Рэспублікі, у якой быў нават раздзел пра свабоду слова.

У 1918-м і асабліва ў 1920 гадах Чырвоная Армія пачала наступ па ўсіх франтах, знішчаючы незалежнасць Украіны, Беларусі, Бухарскай і Каўказскіх рэспублік. Даўжэй за ўсіх трымалася Грузія, у якой ужо быў свой парламент, і жанчынам упершыню ў Еўропе было дадзена права голасу. У лютым 1921 года Чырвоная Армія захапіла і Грузію.

## 3 Трэці фактар — традыцыі свабоды слова

Вядома, газеты, якія выдаваліся на абшарах Расійскай імперыі, падвяргаліся цэнзуры, але на нацыянальных ускраінах існавалі рэдкія газеты і часопісы, што адрозніваліся вальнадумствам. Іх выдавалі асветнікі, якія больш дбалі пра захаванне родных моў, чым палітыку.

Традыцыі адносна вольнага слова былі ў Грузіі, Украіне і Беларусі. У савецкі час асветную ролю адыгрывалі выданні ў эміграцыі, якія траплялі на тэрыторыю СССР у невялікай колькасці.

## 4 Чацвёрты фактар — традыцыі публічнай палітыкі

Яркія палітыкі першай Дзяржаўнай думы 1905–1917 гадоў сталі і першымі публічнымі палітыкамі XX стагоддзя ў Грузіі, Расіі, Украіне і іншых маладых дзяржавах.

Але традыцыі былі і па-за парламенцкай дзейнасцю — так ці інакш, папулярнасць сацыял-дэмакраты на мяжы стагоддзяў выхавала шматлікіх інтэлектуалаў, якія станавіліся ініцыятарамі рэформаў.

## 5 Пяты фактар — традыцыі дысідэнцтва

Барацьба за правы чалавека толькі ў другой палове XX стагоддзя стала ўсведамляцца як супрацьстаянне ўладзе, хоць і раней, у часы «чырвонага тэрору», інтэлектуалы спрабавалі не маўчаць.

Але актыўная дысідэнцкая дзейнасць была прыкметная ва Украіне, Расіі, Грузіі, менш у Беларусі, Азербайджане, Арменіі, краінах Цэнтральнай Азіі.

## 6 Фактар шосты і самы важны — «антыкрамлёўскі»

У кожнай постсавецкай краіне ў той ці іншай ступені існуе па некалькі фактараў, але калі няма галоўнага — «антыкрамлёўскага», то ніякай рэвалюцыі не атрымаецца, проста няма стымулу. Можна зрынуць прэзідэнта, і ў Кыргызстане гэта рабілі двойчы, але палітычная сістэма захавалася, як і жаданне паспрабаваць зрынуць зноў. У Кыргызстане былі не рэвалюцыі — звычайныя паўстанні, перавароты, якія замяняюць лідараў, а тыя, хто прыходзіў на змену, захоўвалі сістэму, паўтаралі памылкі папярэднікаў, і так можа адбывацца па некалькі разоў.

Першая рэвалюцыя на постсавецкай прасторы была ў Таджыкістане, у 1991–1992 гадах, але і яна скончылася правалам. Бракавала шматлікіх фактараў — адносна маладая рэспубліка, створаная ў 1924 годзе, не мела ні ўласных дысідэнтаў, ні традыцый свабоды словы, ні традыцый палітычнай культуры. Гістарычная памяць была захаваная, але — у суседнім Узбекістане, дзе па волі Сталіна знаходзяцца старажытныя таджыкскія гарады — Самарканд і Бухара. Спробы выкарыстоўваць шосты фактар скончыліся кровапралітнай грамадзянскай вайной, ініцыяванай Крамлём.

Другая спроба сур'ёзнай рэвалюцыі была ва Украіне ў 2004 годзе. Гэта краіна валодае ўсімі пяццю фактарамі, але ў той час бракавала таго ж шостага, што зводзіла высілкі палітыкаў, апазіцыйных прэзідэнту Кучме, да сітуацыі, падобнай з кыргызскай. Так і атрымалася — першая ўкраінская рэвалюцыя амаль забытая, паколькі вынікаў не дала. Крэмль адпомсціў Украіне, падсунуўшы «проффесора» з крымінальным мінулым.

Затое атрымалася другая, і тое пасля таго, як у сярэдзіне студзеня на Майдане нарэшце сталі казаць пра «руку Крамля», а пазней з'явіліся доказы прамога ўмяшальніцтва Расіі. Збольшага другая ўкраінская рэвалюцыя стала паўторам грузінскай «рэвалюцыі руж», з той толькі розніцай, што ў Тбілісі абышлося без кровапраліцця, і ў Грузіі ўжо была згуртаваная каманда аднадумцаў. Украіне яшчэ прыйдзецца змагацца за сваю рэвалюцыю, але галоўнае зроблена — шосты фактар прынёс вынік.

Чаму ён важны? Любая рэвалюцыя мае сэнс, калі радыкальна змяняецца не толькі палітычная сістэма, але і вызначана барацьба са знешнім фактарам — у гэтым выпадку фактар імперыі ў асобе Крамля. Масква па добрай волі ніколі не прызнае ніводную рэформу, калі яна супярэчыць імперскай сутнасці — падпарадкаванню Крамлю. Існуюць розныя формы падпарадкавання: актыўная — Беларусь, Казахстан, Арменія; пасіўная — Кыргызстан, Таджыкістан; маўклівая — Узбекістан, Туркменістан. Хоць, мяркуючы па выніках галасавання па рэзалюцыі Генеральнай асамблеі ААН па сітуацыі ва Украіне, у актыве Крамля засталіся толькі Беларусь і Казахстан. Іншыя краіны занялі пазіцыю нейтралітэту ці «мая хата з краю» — і зусім не з'явіліся на галасаванне.

Гэта не значыць, што ў гэтых краінах саспела рэвалюцыйная сітуацыя. Яе зусім няма ні ў Кыргызстане, ні ў Таджыкістане, ні ў Туркменістане. Незадаволенасць існуе, нават робяцца спробы нешматлікіх выступаў і правядзення акцый, але бракуе большасці з неабходных фактараў. І, найперш, шостага — самага важнага.

Пакуль існуе крамлёўская прапаганда, эканамічныя рычагі, а для цэнтральна-азіяцкіх краін і фактар працоўнай міграцыі, немагчыма ўявіць існаванне якой-небудзь групы людзей, што створыць праграму рэформаў і аб'яднае вакол сябе нейкую частку насельніцтва. Да гэтага варта дадаць сумны вынік моўнай асіміляцыі, якая праходзіла апошнія 100–150 гадоў, яшчэ з часоў Расійскай імперыі, і якая шмат у чым змяніла менталітэт народаў, пераўтвораных у спажыўцоў расійскай прапаганды і беспярэчна веруючых усяму, што кажа Крэмль.

Праходзіць час, з'яўляюцца новыя чыннікі недаверу да Крамля, як, напрыклад, акупацыя Крыму, і калі не ўсе, але нейкая частка людзей пачынае цікавіцца шостым фактарам, ім становіцца зразумелая палітыка Масквы. Зарад яшчэ не дастатковы, але ён ужо ёсць. Застаецца чакаць фармавання крытычнай масы, гэта значыць, фармавання шостага фактару.



**Даведка:**

Алег Панфілаў, сусветна вядомы журналіст, прафесар Дзяржаўнага ўніверсітэта Іліі (Грузія), аўтар і вядучы тэлеканала ПІК.

У самы разгар расійска-грузінскага супрацьстаяння дырэктар Цэнтру экстрэмальнай журналістыкі Саюза журналістаў Расіі Алег Панфілаў прыняў рашэнне хрысціцца ў Грузінскай праваслаўнай царкве — такой была рэакцыя на сілавыя захады Расіі супраць Грузіі. Ужо на наступны год ён пераехаў на сталае жыхарства ў Тбілісі. А неўзабаве Міхаіл Саакашвілі прадставіў яму грузінскае грамадзянства.

# Навука без перспектываў

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Лукашэнка ў чарговы раз запатрабаваў ад беларускіх навукоўцаў «прарыўных распрацовак сусветнага ўзроўню». Маўляў, трэба, каб пра беларускую навуку загаварыў увесь свет. Гэтыя спадзевы наўрад ці спраўдзяцца, таму што беларуская мадэль развіцця пад гэта «не заточана».**



www.ibogodyazh.blogspot.com

Насамрэч, усё, што беларускія навукоўцы паказвалі Аляксандру Лукашэнку падчас ягонага наведвання ў НАН, — шлях у мінулае, выкліканы палітыкай беларускай улады. Беларускі правадыр сам азначыў два тупіковых шляхі развіцця, і абодва актыўна і даволі бяздумна ўвасабляюцца ў жыццё.

Першы шлях у мінулае — гэта праграма імпартазамяшчэння. Канешне, добра, калі замест імпарту мы набываем айчынныя тавары. Але для гэтага трэба, каб айчынныя тавары былі больш сучасныя і лепшай якасці. Аднак «капіяваннем» гэтага не дамагчыся.

Па-першае, копія заўсёды горш за арыгінал. Гэта, дарэчы, зразумелі ўрэшце кітайцы, і пачалі займацца не капіяваннем тэхнічных навінак, а іх ліцэнзійнай зборкай. Мы ж дагэтуль трацім шмат грошай і высілкаў на стварэнне копій, абы гэтая копія была «беларускай распрацоўкай».

Як паведамляе БелТА, у НАН Лукашэнку праінфармавалі аб функцыянаванні «Беларускай касмічнай сістэмы дыстанцыйнага зандзіравання зямлі». Беларускі касмічны апарат «БелКА–2», згодна паведамленню, выконвае заказы ў інтарэсах 11 міністэрстваў, заключаны кантракты на суму прыкладна ў 25% сродкаў, укладзеных у стварэнне спадарожніка.

Нагадаем, што «БелКА–2» выправілася ў космас 22 ліпеня 2012 года, а «гарантыйны тэрмін» функцыянавання гэтага спадарожніка — 5 гадоў. Два гады з пяці амаль прайшлі, а мы гэты спадарожнік, як высвятляецца, і на 25% яшчэ не акупілі. Узнікае лагічнае пытанне: ці трэба было траціць столькі грошай на ягонае стварэнне? Ці не прасцей было карыстацца, як і раней, дадзенымі еўрапейскіх, амерыканскіх і японскіх спадарожнікаў?

Увазе кіраўніка дзяржавы былў прадстаўлены ўзор беспілотнага лятальнага апарата. Пакуль мы прадстаўляем «узоры», гэтыя беспілотнікі ўжо пачкамі збіваюць у «гарачых кропках».

Па-другое, калі мы ствараем «імпартазамяшчаючыя» прадпрыемствы, мы, свядома ці не, але ствараем прадпрыемства ўжо састарэлае, замест таго, каб прыдумляць навінкі. Бо гэтая вытворчасць, хай не ў нас, але ўжо ёсць. І тое, што яна ўжо ёсць, аўтаматычна пераводзіць яе ў састарэлыя.

І, канешне, ж, па-трэцяе, з «імпартазамяшчэннем» нам няма чаго рабіць на знешніх рынках. Зразумела, што там попытам карыстаюцца арыгіналы, а не копіі.

Другі шлях у мінуўшчыну — актыўна ўключаная зараз праграма мадэрнізацыі.

За 20 гадоў кіраўніцтва Аляксандра Рыгоравіча ў краіне не створана ніводнага новага буйнога вытворчага прадпрыемства. Мы не ствараем новае, усе нашыя высілкі кінутыя на «мадэрнізацыю» таго, што ў нас засталося ад СССР. А гэтая тэхналогія, нават калі яна мадэрнізаваная, ужо састарэла маральна.

Давайце ўявім, што мы зрабілі «прарыў» у кампутарнай тэхналогіі. На базе чаго мы будзем ажыццяўляць ідэю: на базе працэсараў «Інтэграл»? Магчыма, нашы навукоўцы распрацуюць новы від сталі. Вытворчасць будзе на базе састарэлага БМЗ? Так і хочацца сказаць, як Станіслаўскі: «Не веру!».

**Выявілася, што беларускія планшэты (Horizont HT9109B, Horizont HT9115, Horizont HT9106) — гэта noname-кітайшчына. Прычым мадэлі састарэлыя і прадаюцца ў інтэрнэт-крамах за 140–150 долараў пад назвамі кшталту Superpad або FlyTouch 3 з бясплатнай дастаўкай**

Мадэрнізацыя не стварае ўмоваў для рэалізацыі навуковых распрацовак. Таму што «мадэрнізацыя» — гэта толькі паляпшэнне старога. У мабільны тэлефон можна купіць новую батарэйку, можна закачаць туды новую прашыўку, але ад гэтага кнопачная «Матарола» не стане смартфонам ад «Самсунга».

Распрацаваць навінку мала, трэба яшчэ стварыць умовы яе вытворчасці. А ў нас з мадэрнізацыяй і імпартазамяшчэннем такіх умоваў няма і быць не можа.

Таму беларускія «ноў-хаў», якія так шчыра паказвалі Аляксандру Лукашэнку, плаўна перацякаюць за мяжу — туды, дзе ёсць тэхналогія для ажыццяўлення гэтых ідэй. Нават, можа, і добра, што перацякаюць, бо інакш яны б проста так і састарэлі, нерэалізаваныя.

Кіраўнік дзяржавы акцэнтаваў увагу на тым, што па справаздачах у краіне расце ўдзельная вага інавацыйнай прадукцыі. «Здавалася б, больш інавацый — больш продажаў. А на справе адбываецца адваротнае: шмат прадукцыі на складах», — заўважыў Аляксандр Лукашэнка. І ніяк не мог зразумець, чаму так адбываецца. А таму і адбываецца, што для сапраўдных навінак няма сучаснай вытворчасці, а «імпартазамяшчэнне» нікому не патрэбнае.

Не так даўно ў навінах па адным з беларускіх тэлеканалаў быў сюжэт: распавядалі пра тое, што сусветныя навукоўцы выявілі гравітацыйныя хвалі Вялікага выбуху, і тэорыю Вялікага выбуху можна лічыць даказанай. І пасля гэтага: «А беларускія навукоўцы з Нацыянальнай акадэміі навук распрацавалі банкаўскую картку для дзяцей».

Беларускія банкі "дзіцячыя карткі" выдаюць ужо больш за 10 гадоў. Каму патрэбная такая «інавацыя» ад беларускіх разумнікаў?

# Справа жыцця прафесара Аўдзея

Генадзь ШЭРШАНЬ

**7 красавіка адзначаецца Сусветны дзень здароўя. І ў гэты ж дзень, 85 гадоў таму, нарадзіўся выдатны лекар Леанід Вікенцьевіч Аўдзей. Гэта дзякуючы яму ў Беларусі быў створаны цэнтр хірургічнай гепаталогіі і партальнай гіпертэнзіі. На жаль, Леанід Аўдзей даўно сышоў у лепшы свет.**


www.bsmu.by

У годзе 1957-м ці 1958-м (дакладна не памятаю) мы, студэнты чацвёртага курса, прыйшлі ў клініку кафедры факультэцкай хірургіі на начное дзяжурства. На калідоры ля ложка з хворай, якая з гадзіну таму паступіла з прыёмнага пакоя, убачылі схіленую цыбатую постаць нейкага доктара. «Хто гэта?» — спыталі мы ў дзяжурнай медсястры. «Аўдзей», — коратка, але з павагай у голасе адказала яна. Гэта прозвішча мы ўжо чулі, і не толькі на кафедры факультэцкай хірургіі, але і на іншых клінічных кафедрах. Усе адзначалі, што яго ўладальнік — здольны і перспектыўны спецыяліст па дыягностыцы і хірургічным лячэнні хвароб жоўцевыносных шляхоў. А ў той час Леанід яшчэ толькі вучыўся ў аспірантуры.

Вілейскі юнак Леанід Аўдзей закончыў Мінскі медыцынскі інстытут у 1953 годзе, потым тры гады адпрацаваў загадчыкам хірургічнага аддзялення і галоўурачом Пастаўскай раённай бальніцы. У 1959 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю па хірургічным лячэнні халецыстыту. Пасля была праца асістэнтам і дацэнтам кафедры факультэцкай хірургіі Мінскага медынстытута аж да 1970 года. І ўвесь гэты час яго першачарговай увагай і клопатам заставаліся праблемы лячэння хвароб печані, жоўцевыносных шляхоў і падстраўнікавай залозы.

Леаніда Вікенцьевіча прываблівалі велізарныя здольнасці печані да ўзнаўлення і кампенсацыі сваіх функцый. Чаканай і лагічнай была абарона Аўдзеем доктарскай дысертацыі на тэму «Кампенсацыі функцыянальных і марфалагічных змяненняў печані і жоўцевых шляхоў пры хірургічным лячэнні халецыстыту» ў 1968 годзе. У тым жа годзе яго абралі старшынёй Беларускага навуковага таварыства хірургаў. Ён увайшоў у прэзідыум праўлення Усесаюзных навуковых таварыстваў хірургаў і гастраэнтэролагаў, а таксама ў склад Міжнароднай хірургічнай асацыяцыі. Тады ж атрымаў і пасаду галоўнага хірурга Міністэрства аховы здароўя БССР. У 1970 годзе Леаніду Вікенцьевічу прысвоілі званне прафесара, і ён заняў другую кафедру шпітальнай хірургіі Мінскага медынстытута.

На пачатку 1970-х гадоў у лепшых клініках свету хворым пачалі перасаджваць печань. Гэта падштурхнула галоўнага хірурга краіны да больш актыўных і рашучых дзеянняў. Але ў той час не толькі ў Беларусі, ва ўсім Савецкім Саюзе не было неабходнай матэрыяльна-тэхнічнай базы і падрыхтаваных адпаведным чынам кадраў гепатолагаў — лекараў, якія адмыслова (спецыялізавана) здымаюць парушэнні функцый печані і жоўцевыносных шляхоў, а таксама лечаць іхнія хваробы.

І ўсё ж прафесар Аўдзей дабіўся адкрыцця ў 1970 годзе аддзялення хірургічнай гепаталогіі і партальнай гіпертэнзіі на 100 ложкаў. На той час гэта была самая буйная клінічная база па гепаталогіі ва ўсім СССР. На гэтай базе быў створаны адпаведны РНПЦ, а ў 1971 годзе — першая ў Беларусі эндаскапічная служба. Пад кіраўніцтвам і непасрэдным удзелам Леаніда Аўдзея ўзнікла аддзяленне, а потым і лабараторыя экстракарпаральных метадаў дэтаксікацыі (метадаў абясшкоджвання атрутных рэчываў, утвораных у арганізме хворага, па-за межамі яго цела), якія дзейнічаюць і сёння.

Хворым з пячоначнай недастатковасцю (пераважна хворым цырозам печані) прафесар Аўдзей вырашыў стварыць так званую «штучную печань». Дзеля гэтага яму давялося старанна спланаваць і выканаць некалькі складаных канструктыўных аперацый. Падобныя аперацыі належаць да катэгорыі паліятыўных, якімі здымаюць ці змяншаюць цяжкія і пагрозлівыя праявы хваробы, даюць хвораму часовую палёгку, але гэтымі ўмяшаннямі немагчыма ліквідаваць саму хваробу, а толькі даравацьнекалькі дадатковых месяцаў прыстойнага жыцця, каб падрыхтавацца да больш складаных радыкальных аперацый.

Мне давялося бачыць Леаніда Вікенцьевіча ў самыя розныя часы, з розных бакоў (нават з бальнічнага ложка). Ён рэдка ўсміхаўся, але, калі пакідаў пакой, там заўсёды ўсталёўвалася адчуванне нейкага ўздыму, не весялосці, а менавіта сталага аптымізму. Ён цаніў у людзях прынцыповасць, смеласць поглядаў, павагу да чужой думкі і прыстойнасць. Ён быў патрабавальным і часам нават рэзкім, але нязменна справядлівым.

Справай яго жыцця была падрыхтоўка да аперацыі па перасадцы печані. Але 5 ліпеня 1977 года Леаніда Аўдзея напаткала недарэчная заўчасная смерць. Праз 31 год, 3 красавіка 2008 года, у Беларусі ўпершыню правялі трансплантацыю печані. Справа прафесара Аўдзея працягнулася ў яго вучнях. Было б справядліва, каб РНПЦ па перасадцы печані атрымаў імя стваральніка беларускай школы гепатолагаў Леаніда Вікенцьевіча Аўдзея.

TV

## 13 КРАСАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 Беларусь

**07.20** Фільм «Тры таполі на Плюшчысе» (СССР).
**08.40** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**08.50** Слова Мітрапаліта Паўла.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты 3» (Украіна). 2-я серыя.
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.15** Каробка перадач.
**13.50** Таямніцы следства.
**14.30** БеларусьLIFE.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Мірны тур.
**15.45** Eurovision. Вынікі тыдня.
**16.05** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**17.15** Меладрама «Квіток на дваіх» (Украіна). 1-я - 4-я, заключная, серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Меладрама «Чалавек, які кахае» (Італія).
**00.05** Камедыйны серыял «Сваты 3» (Украіна). 2-я серыя.
**01.00** Эксцэнтрычная камедыя «Чалавек з бульвара Капуцынаў» (СССР).

### Н

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Пакуль усе дома».
**10.25** Прэм'ера. «Вячаслаў Ціханаў. Гутарка па шчырасці».
**11.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.35** «Успамінаючы Вячаслава Ціханава».
**14.10** Фільм «Справа была ў Пянькове».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Камедыя «Каралеўская спадчына».
**18.00** АНТ прадстаўляе: «Рассмяшы коміка».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**23.20** Вострасюжэтны фільм «Хуткасць».

### ТВ

**06.10** «Студэнты». Серыял.
**07.50** Фільм «Трынаццаць сяброў Оушэна». ЗША, 2007г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Дажывём да панядзелку». СССР, 1968 г.
**14.40** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Прэм'ера! «Чатыры вяселлі».
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Фільм «Выпадковы раман». Францыя, 2010 г.
**22.40** Прэм'ера! Шоў «Арганізацыя Вызначаных Нацый».
**00.10** Фільм «Шлюб па-ісландску». Ісландыя.

### 2 Беларусь

**07.30** Серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**08.25** Тэлебарометр.
**08.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**09.45** Заўтра - гэта мы!
**10.20** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**10.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**12.50** Забаўляльная шоў-праграма «СуперІнтуіцыя. Каханне».
**14.00** Аўтабатл.
**14.35** Стыль-бюро.
**15.10** Фантастычныя прыгоды «Чалавек-павук» (ЗША).
**17.30** Пад грыфам «Вядомыя».
**18.05** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў.
**19.15** Суперлато.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Цела чалавека.
**21.40** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).

### 3 Беларусь

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Размовы пра духоўнае».
**08.20** «Жорсткі раманс». Экранізацыя п'есы А.М. Астроўскага «Беспасажніца». 1-2 серыі.
**10.35** «Эпоха». Луіс Маер.
**11.30** «Калейдаскоп».
**11.35** «Свет прыроды». Лесабалотны комплекс Чырвоны бор.
**12.05** «Плошча мастацтваў». Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Алімпіяда Шах-Парон.
**12.30** «Дзед Аўсей і Палашка». Кароткаметражны фільм па матывах апавядання Міхася Лынькова.
**12.55** «Калейдаскоп».
**13.00** «Размовы пра духоўнае».
**13.15** «Падарожжа са смакам». Мальта і Гоза.
**13.45** «Размаўляем па-беларуску.
**13.50** Мультфільм.
**14.10** «Наша спадчына». Жалудоцкі палац. Часткі 1-я і 2-я.
**14.35** «Шчасце Алены». Дак. фільм пра сцэнарыста і рэжысёра Алену Тураву.
**15.00** «Калейдаскоп».
**15.05** «Настальжы». Кампазітар Людміла Шлег.
**15.30** «Глыбокае». Дакументальны фільм пра адзін з старадаўніх гарадоў Беларусі.
**15.40** «Імгненне вечнасці». Перакладчыца, паэтэса Надзея Вольпін і Сяргей Ясенін. Жыццё і каханне.
**16.00** «Размовы пра духоўнае».
**16.10** «Наперад у мінулае».
**16.40** «Размаўляем па-беларуску.
**16.45** Фінальны гала-канцэрт нацыянальнага адборачнага тура фестывалю «Факел».
**18.00** Дзіцячы фільм. «Казакі-разбойнікі».
**19.00** «Культпрасвет».
**19.30** Сусветнае кіно. «Пучыні і дзяўчына».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.10** С.Ясенін. «Ганна Снегіна». Музычна-паэтычная кампазіцыя.
**22.15** «Без сонца». Мастацкі фільм па матывах п'есы М.Горкага «На дне».
**00.00** «Культпрасвет».
**00.25** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх нокравы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача».
**10.50** «Цуд тэхнікі».
**11.20** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Дачны адказ».
**13.00** Сёння.
**13.15** «Таямнічая Расія».
**14.10** Вострасюжэтны баявік «Другі забойны».
**16.00** Сёння.
**16.15** «І зноў добры дзень!».
**16.40** «Следства вялі…».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.25** «Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень».
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Вострасюжэтны фільм «Апошні дзень».
**23.05** «Школа зласлоўя».
**23.50** «Авіятары».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы».
**07.50** «Тры шалёныя нулі», серыял: 12 серыя.
**08.20** Зона «Свабоды».
**09.00** Беларусы ў Польшчы «Апантаныя», дак. цыкл.
**09.15** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.45** 54 % (публіцыстычная праграма): Мы не інкубатары!
**10.05** Рэпартэр.
**10.30** Невядомая Беларусь: «Небяспечны архіў. Рэабілітацыя», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**11.15** Казкі для дзетак: «Прыгода ката Філімона», «Аповеды таты Бабра», «Вынаходлівы Дабрамір».
**11.50** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 7 серыя.
**12.20** «Тры шалёныя нулі», серыял: 12 серыя.
**12.45** «Новая Польшча», дак. фільм, 2010 г., Польшча–ЗША.
**13.45** Фітнес-шмітнес.
**14.00** «Дэфект», тэлесерыял: 1 серыя.
**14.55** «Медсястра Бэці», трагікамедыя, 2000 г., ЗША.
**16.45** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 10 серыя.
**17.30** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**18.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Валенцій Ванькові.
**19.15** Форум (ток-шоу): Школьны вальс.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.35** Дакументальная гадзіна: «Апошнія дні СССР», дак. фільм, 2011 г., Францыя.
**21.30** Фільматэка майстроў: «Ціхі хаос», маст. фільм, 2008 г., Італія.
**23.20** Зоры не спяць: Антоній Бокун.
**23.50** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2014», канцэрт.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Бабруйск:** (8 029) 628 75 01, Вольга
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

БЕЛПОЧТА — ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ____
Всего ____

Кассир

# Ці пераймянуюць Роўна ў Музычкаград?

Алег НОВІКАЎ

**У ноч на 25 сакавіка супрацоўнікамі МУС Украіны быў забіты, мабыць, самы адыёзны сябра праварадыкальнага «Правага сектару» (ПС) Аляксандр Музычка, больш вядомы як Сашко Білы. Шмат украінцаў лічаць нябожчыка героем і не ўхваляюць такіх метадаў барацьбы з бандытызмам з боку МУС.**




Тое, што па Сашко Біламу плакала турма, не выклікае сумневаў. Толькі за сакавік супраць яго было распачата некалькі крымінальных спраў, у тым ліку па артыкулу «бандытызм». У прынцыпе, для пачатку працэсуальных дзеянняў хапіла б толькі відэа, вядомага ўсім роліка, на якім Сашко збівае супрацоўніка пракуратуры Роўна.

Была яшчэ прычына, каб супакоіць куратара ПС па Заходняй Украіне. Збіццё пракурора і іншыя скандальныя ўчынкі Музычкі моцна дыскрэдытавалі Майдан. Пра гэта казалі практычна ўсе вядучыя палітолагі Украіны. Не дарма смерць Сашко Білага нарадзіла анекдот пра тое, як Пуцін распінае кіраўніцтва ФСБ за тое, што яны не зберaглі Музычку.

Таму нічога дзіўнага, што шмат людзей (у тым ліку і прыхільнікаў Майдана) віталі аперацыю 25 красавіка. Пра што кажуць шматлікія выказванні на інтэрнэт-форумах, накшталт: «Міліцыі рэспект! «Правы сектар» — гэта бандыты з вялікай дарогі, якія прыкрываюцца ідэямі вызвалення Украіны (напэўна, ад лішніх грошай), мне сорамна і агідна, што я быў з імі на Майдане!»

Аднак пры гэтым паралельна можна пабачыць масіў каментараў, аўтары якіх выказваюць павагу на адрас нябожчыка або як мінімум не апраўдваюць учынкі спецназу.

Прычына павагі шматлікіх украінцаў да фактычнага злачынца — комплексная. Перш за ўсё, людзям не падабаецца фармат аперацыі, якая мала чым адрозніваецца ад звычайных бандыцкіх разборак у стылі 1990-х гадоў. Нагадаем, што Музычку жорстка забілі, калі ён спрабаваў збегчы ад спецназаўцаў.

«Які б там ні быў Музычка, а валіць яго было нельга! Суд — вось што павінна было над ім адбыцца! А цяпер будзе супрацьстаянне! І не кажыце (сам былы мент), што мянты хацелі ўзяць жывым. Каб хацелі, дык узялі б!!! А так проста заказуха чыстай вады!» — піша нейкі раз'юшаны каментатар.

Бензіну ў полымя падлівае вельмі супярэчлівая трактоўка падзей з боку самой міліцыі. «Папярэднія высновы экспертаў-крыміналістаў дазваляюць выказаць версію пра тое, што актывіст «Правага сектару» Аляксандр Музычка, вядомы як Сашко Білы, сам нанёс сабе раненні падчас затрымання», — паведаміў першы намеснік міністра ўнутраных спраў Уладзімір Еўдакімаў. У такую версію не паверылі нават тыя, хто спачатку вітаў ліквідацыю Музычкі, напрыклад, Юрый Луцэнка.

Шмат хто ўзгадаў пра тое, што літаральна за пару дзён да забойства рэгіянальны каардынатар «Правага сектару» апублікаваў афіцыйны зварот да СБУ, у якім абвінавачваў сілавікоў у намеры яго знішчыць па замове Масквы або выдаць спецслужбам Расіі, дзе на яго адкрытая крымінальная справа за ўдзел у чачэнскім супраціве ў 1990-х гадоў.

«Забойства Аляксандра Музычкі — гэта працяг спецаперацыі Расіі па расколу Украіны», — пра гэта заявіў 25 сакавіка лідар іншай нацыяналістычнай групоўкі «Спільна справа» Аляксандр Данілюк. Па яго словах, «цяпер адколваюць Заходнюю Украіну. Авакаў (кіраўнік украінскага МУС) працуе на Пуціна. Пуцін сказаў, Авакаў узяў пад казырок і выканаў. Сутнасць задумкі Масквы — сутыкнуць дзве фракцыі Майдану, дэмакратаў і «Правы сектар», каб аслабіць Украіну знутры».

«Правы сектар» сапраўды вельмі жорстка адрэагаваў на смерць Музычкі, абвясціўшы вайну Авакаву. ПС падтрымалі і камандзіры сотняў Майдану. 26 сакавіка яны прынялі ўльтыматум на адрас ураду Яцанюка. У тэксце заявы гаворыцца: «Замест барацьбы са злачынствам органы ўнутраных спраў заняліся прэвентыўнымі затрыманнямі і правакацыямі супраць актывістаў Майдана і аддзелаў народнай самаабароны ў розных рэгіёнах Украіны. Усё гэта разам узятае сведчыць або аб абсалютнай некампетэнтнасці, або аб свядомай здрадзе міністра ўнутраных спраў Арсеня Авакава, што дыскрэдытуе новую ўладу Украіны, падрывае яе аўтарытэт і правакуе народ да акцый пратэсту ўжо супраць яе».

Існуе версія, што да смерці Музычкі маюць дачыненне некаторыя лідары «Правага сектару», якія жадаюць бачыць гэты праект салідный палітычнай сілай. Музычка сваімі выхадкамі яўна дыскрэдытаваў трансфармацыю групоўкі ў палітычную партыю. Прынамсі, схільны да такой думкі вядомы ўкраінскі палітолаг Вадзім Карасёў.

На розных форумах можна наткнуцца і на адкрыта ксенафобскія антысеміцкія каментары. Быццам, просты ўкраінскі хлопец праварадыкальных поглядаў не спадабаўся алігархам вядомай нацыянальнасці.

Аднак самы цікавы аспект народнай павагі да Музычкі тычыцца яго метадаў — тэрору адміністрацыі і судоў. На думку шмат каго, такія метады значна больш эфектыўныя для абароны інтарэсаў простых людзей. «Ён хадзіў па Роўна, і ўсе віталі яго, яму верылі. Сапраўдны народны герой. У Роўна і Луцку яму нават міліцыя давярала, ён усіх крымінальных бандытаў папярэдзіў, каб не чапалі людзей. Злачыннасці ў Роўна практычна не было». «З усёй Ровенскай вобласці да яго ездзілі людзі па дапамогу, а ён усім дапамагаў як мог, бясплатна... Людзі прасілі ў яго абароны, чарга стаяла да яго з тых, каго пакрыўдзілі, яму давяралі. Простыя людзі ішлі не ў міліцыю, не да дэпутатаў, а да яго па дапамогу. Я б хацеў, каб у кожным горадзе быў такі справядлівы і спагадны чалавек», — вось такія каментары пішуць нябожчыку некаторыя жыхары Роўна.

У цэлым, гэта прызнаюць усе эксперты, у Заходняй Украіне смерць Музычкі ўзмацніла недавер да новай улады. Многія лічаць, што цяперашнія чыноўнікі дзейнічаюць не лепш за папярэднікаў, і абураны тым, што да гэтага часу ніхто не пакараны за падзеі на Майдане.

Застаецца сказаць, што існуе думка пра тое, што мы з'яўляемся сведкамі нараджэння міфу пра Музычку. Так, вядомы палітык і палітолаг Дзмітрый Карчынскі прагназуе, што ў Роўна з часам з'явіцца помнік Сашко Біламу, а яго каларытная фігура стане турыстычным аб'ектам Валыні. Некаторыя прыхільнікі Сашко Білага ідуць яшчэ далей, прапануючы ўвогуле перайменаваць Роўна ў Музычкаград.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Эксперты называюць дзве асноўныя версіі такіх паводзін (сустрэча з Турчынавым) беларускага прэзідэнта. Першая грунтуецца на тым, што Лукашэнка заўсёды імкнецца падкрэсліць самастойнасць і незалежнасць сваёй палітыкі. На фоне папрокаў у ціску з боку Крамля беларускі прэзідэнт такім чынам спрабуе адстаяць свой імідж моцнага палітыка, які не паддаецца ніякаму ўплыву звонку. Мясцовыя назіральнікі адзначаюць шмат прыкмет таго, што афіцыйнаму Мінску сорамна за сваю падтрымку Расіі. Цёплая сустрэча з Турчынавым магла таксама мець за мэту прадэманстраваць свету, што беларускі лідар застаецца самастойным палітыкам, а не сатэлітам Крамля. Паводле іншай, амаль супрацьлеглай версіі, сустрэча з Турчынавым адбылася не толькі з дазволу Масквы, але і па яе ініцыятыве. Эксперты, якія прытрымліваюцца такога пункту гледжання, зыходзяць з таго, што Беларусь эканамічна несамастойная і на дадзеным этапе мае вялікую колькасць фінансавых праблем, якія пазбаўляюць яе магчымасці праводзіць уласную палітыку.

**«Независимая газета» (Расія)**

Здавалася, што ўсё — каханне прайшло, завялі памідоры. Але не. Менавіта Аляксандр Рыгоравіч на днях прыняў в. а. прэзідэнта Украіны Аляксандра Турчынава і меў з ім трохгадзінную гутарку. Падрабязнасцяў пра яе мала, але з вялікай доляй верагоднасці можна меркаваць, што Аляксандр Лукашэнка ўзяў на сябе ролю міратворца-перамоўшчыка, каб вярнуць адносіны паміж Украінай і Расіяй хоць бы да прагматычных і дзелавых. Аднак можна сумнявацца, што Аляксандр Лукашэнка кардынальна палепшыць адносіны паміж Кіевам і Масквой, бо сітуацыя склалася патавая, з якой немагчыма выйсці, захаваўшы твар, чаго хочуць усе ўдзельнікі супрацьстаяння.

**«Республика» (Казахстан)**

Адным з ключавых момантаў сустрэчы Лукашэнкі і Турчынава стала заява аб транспартным калідоры ад Чорнага мора да Балтыкі. «Мы дамовіліся аб тым, што ў бліжэйшы час у рамках існуючай сёння камісіі разгледзім і, калі трэба, прральгатуем гэты транзіт», — сказаў Лукашэнка. Балта-Чарнаморскі саюз — адна з галоўных ідэй у пачатку 1990-х гадоў Беларускага народнага фронту і яго кіраўніка, цяпер палітэмігранта Зянона Пазьняка. Само жыццё прымушае беларускую ўладу ўсё ж прыняць удзел у Балта-Чарнаморскім праекце.

**«RFI» (Францыя)**

Расійска-ўкраінскае супрацьстаянне здольнае пагоршыць і без таго складанае эканамічнае становішча Беларусі. Асноўная праблема можа заключацца ў страце традыцыйных рынкаў збыту беларускай прадукцыі. У першыя месяцы бягучага года беларускі знешні гандаль працягнуў сумныя тэндэнцыі года мінулага. Калі ў 2013 годзе продаж тавараў з Беларусі за мяжу скараціўся на 19,2 працэнта, або амаль на 9 мільярдаў долараў, то ў студзені скарачэнне склала 8 працэнтаў ад ужо «ўрэзанага» леташняга паказчыка. Эканамісты мяркуюць, што і ў сакавіку сітуацыя будзе не лепшай. Пра гэта сведчаць аб'ёмы беларускіх складскіх запасаў, якія ўвесь час растуць. І супрацьстаянне паміж Расіяй і Украінай уносіць у баланс беларускага знешняга гандлю непажаданыя карэктывы.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### Італія. Генуя таксама хоча Крым

На вуліцах італьянскага горада Генуя з'явіліся пракламацыі, аўтары якіх выступаюць супраць інкарпарацыі Крыму ў склад Расіі, паколькі, на іх думку, крымскі паўвостраў павінен належыць генуэзскім уладам. Аргументацыя на карысць такой ідэі будуецца на тым факце, што ў Крыме ў I–XV стагоддзях знаходзілася шмат калоній Рэспублікі Генуя, якія вялі тут гандаль з усім суседнімі рэгіёнамі, уключаючы нават Маскву. Фактычна, пояс генуэзскіх факторый ахопліваў увесь паўднёвы Крым — ад Керчы да Севастопаля, дзе сёння знаходзяцца самыя вядомыя і дарагія курорты. У прынцыпе, на першы погляд, кампанія за вяртанне Крыму ў склад Генуі падобная на кур'ёз. Аднак гэта далёка не так. Справа ў тым, што цяпер на Поўначы Італіі назіраецца выбух сепаратысцкіх настрояў, выкліканых нежаданнем датаваць бедны Поўдзень. Пасля таго, як Венецыя пару тыдняў таму правяла кансультатыўны плебісцыт за стварэнне сваёй незалежнай дзяржавы, на якім трыумфальна перамагалі незалежнікі, падобныя рэферэндумы хоча правесці грамадскасць шматлікіх правінцый Паўночнай Італіі, у тым ліку і ў Генуі. А розныя экскурсы ў гісторыю Генуі і спасылкі на тое, якой вялікай дзяржавай яна была, добра дапамагаюць сепаратыстам заваяваць розумы выбаршчыкаў.

**Паводле італьянскай прэсы**

### Вялікабрытанія. Народжаным у XXI стагоддзі забароняць продаж табаку



Адно з самых аўтарытэтных у свеце медыцынскіх выданняў «The Lancet» заклікае Сусветную арганізацыю здароўя (WHO) пачаць лабіраваць незвычайную ініцыятыву — дабівацца, каб урады прынялі пастанову пра забарону продажу тытунёвых вырабаў для ўсіх, хто нарадзіўся ў XXI стагоддзі. Як піша «The Lancet», прыкладна тыя, хто пабачыў свет у XXI стагоддзі, стаяць на парозе тынэйджараўскага ўзросту і стануць патэнцыйнымі ахвярамі табачнай рэкламы і ўстаноўкі, што паліць — гэта крута. Аднак яшчэ не позна ўвесці татальную забарону на продаж для гэтай катэгорыі насельніцтва тытунёвых вырабаў і выратаваць іх ад магчымай залежнасці. Больш таго, калі атрымаецца вырасціць на планеце хоць адно пакаленне, якое не паліць, эфект можа быць невераготны. Паленне перастане быць нармальнай з'явай, а каласальныя грошы, якія можна будзе зэканоміць на барацьбе з наступствамі палення, прымусяць усе ўрады працягнуць практыку забароны табаку. Хаця крытыкі ўжо назвалі прапанову «The Lancet» рымейкам славутага «сухога закону» ў ЗША, аматары забароны працягваюць гнуць сваю лінію. На думку выдання, толькі такімі радыкальнымі метадамі можна не дапусціць рэалізацыя жудаснага сцэнару, які прагназуе WHO, што ў гэтым стагоддзі тытунь можа забіць каля мільярда чалавек. Для параўнання ў мінулым стагоддзі ахвярамі палення, па калькуляцыі ўсё то жа WTO, сталі сто мільёнаў жыхароў планеты. Цікава, што прапанову «The Lancet» падтрымаў шэраг уплывовых палітычных выданняў.

**Паводле брытанскай прэсы**

### Польшча. Рускай лаянцы прыдумалі альтэрнатыву

Арганізацыя маладых украінцаў Польшчы вырашыла зрабіць свой сціплы ўнёсак у барацьбу з расійскім уплывам на ўкраінскую масавую культуру. Хлопцы і дзяўчаты распрацавалі слоўнік украінскай лаянкі. Без стварэння свайго спісу брудных выразаў, на думку аўтараў, немагчыма распачаць незалежную дыскусію сярод творчай часткі грамадства. «Шматлікія людзі, асабліва сярод інтэлігенцыі, перайшлі на ўкраінскую мову. І сутыкнуліся з выразнымі цяжкасцямі. Бо творчы працэс немагчымы без смачнага мату. Тое самае «б...я» і іншыя адшліфаваныя штодзённым ужываннем словы стымулююць інтэлектуальную дзейнасць! А тут раптам аказваецца, што мат — з'ява «праўдзіва руская». Як жа быць свядомым патрыётам?» — фармулююць праблему аўтары слоўніка. У якасці выхаду з сітуацыі прапануецца цэлы набор фразеалагізмаў, якім можна лёгка замяніць вядомыя ненарматыўныя рускія выразы. Маніфест у абарону ўкраінскай лаянкі заканчваецца заклікам: «Дарагія сябры! Авалодвайце лексічным і стылістычным багаццем украінскай лаянкі, нясіце яе ў масы, шырока карыстайцеся ёю ў побыце! Памятаеце — нішто так не здымае стрэс, як шырокі мат, нішто так не дапамагае раскрыць глыбіні вашай душы, як здаровая лаянка! Няхай дрыжаць нашы ворагі! Каб яны здохлі!»

**Паводле ўкраінскай прэсы**

# Хто наступны на анексію?

Алег НОВІКАЎ

**Данбас, Латвія, Прыднястроўе... Усе мяркуюць, што менавіта гэтыя рэгіёны з'яўляюцца галоўныя кандыдатамі на тое, каб стаць наступнымі аб'ектамі пуцінскай агрэсіі. Аднак пераможцам у гэтым незвычайным кастынгу можа аказацца малавядомы Каракалпакстан.**




**На думку польскай прэсы, лозунг далучэння да Расіі бліжэйшым часам увогуле здольны стаць папулярнай фішкай для часткі апазіцыі Сярэдняй Азіі, якая выступае супраць мясцовых рэжымаў**

Калі на мінулым тыдні Ташкент гучна заявіў пра тое, што не прызнае анексію Крыму, шмат хто здзівіўся такому кроку ўзбекаў. Большасць МЗС дзяржаў рэгіёну яўна вырашылі не дражніць рускага мядзведзя і абмежаваліся цыдулкамі пра тое, што Кіеву і Маскве тэрмінова патрэбны дыялог і г.д. Прычына зразумелая: на носе выхад міратворчага корпусу NATO з Афганістану, следствам чаго можа стаць не толькі рост напружання па перыметры кардонаў краін Цэнтральнай Азіі, аднак і актывізацыя ўнутранай ісламскай апазіцыі. Паколькі пры падобных перспектывах расійская вайсковая дапамога можа аказацца вельмі карыснай, лепш у адносінах з Масквой на ражон не лезці.

Аднак матывы антырасійскага дэмаршу Ташкента зразумелыя. Паводле расійскай прэсы, на поўначы краіны ў аўтаноміі Каракалпакстан уздымае галаву рух за далучэнне да Расіі. Падобныя настроі выказвае ініцыятыва «Alga», лідар якой, Марып Кунградскі, бачыць будучае свайго краю ў складзе Расіі. Чамусьці, апісваючы будучыню, ён кажа пра прыклад Калінінграда, які не мае з Расіяй агульнай мяжы.

Той факт, што Пуцін робіць інтэрвенцыі пад прыкрыццём абароны рускамоўных, а такой публікі ў Каракалпакіі няшмат, Кунградскага не пужае. Ён лічыць, што ў дадзеным выпадку «зялёныя чалавечкі» павінны прыбыць, каб выратаваць карэнны этнас ад канчатковай асіміляцыі з боку ўзбекаў. Сёння ў Каракалпакіі на 1,7 мільёна чалавек каля 400 тысяч прадстаўнікоў тытульнай нацыі, якія, па словах лідараў «Alga», імкліва становяцца ахвярамі рэалізацыі канцэпцыі, згодна з якой узбекі і каракалпакі — гэта адзін народ. Узбекістан, быццам, «праводзіць палітыку «ўзбечвання» сваіх грамадзян каракалпакскай нацыянальнасці, прыкрываючыся пры гэтым прынцыпам тэрытарыяльнай цэласнасці».

Акрамя тэмы прыгнёту карэннага насельніцтва, сепаратысцкія сайты шмат пішуць пра праблему несправядлівага размеркавання прыроднай рэнты. «Рэжым Карымава штогод вывозіць з Каракалпакіі мільярды долараў (бавоўна, рыба, нафта, газ ды іншыя карысныя выкапні), але для гаспадароў гэтых зямель нічога не будуецца і не развіваецца», — абураецца сайт руху «Вольны Каракалпакстан».

Цяпер, паводле сепаратыстаў, цярпенню абарыгенаў прыйшоў канец. «Тое, што адбылося ў Крыме, прымушае народ Каракалпакіі заявіць, што ён таксама хоча ў склад Расіі. Калі з Масквы будзе пададзены сігнал, мы гатовыя адразу ўзняць расійскі сцяг», — гаворыцца ў апублікаваным на днях маніфесце прарасійскіх каракалпакаў. Вялікае значэнне яны надаюць аднаму з артыкулаў мясцовай канстытуцыі. Згодна з артыкулам 74 Канстытуцыі Каракалпакстана ад 1993 года, край валодае правам выхаду са складу Узбекістана «на падставе ўсеагульнага рэферэндуму народа Каракалпакстана».

Калі Масква не пагодзіцца прымаць пад апеку каракалпакаў, у сепаратыстаў ёсць план «Б». Яны гатовыя выкінуць блакітны казахскі штандар. «Каракалпакі лічаць казахаў больш блізкім народам, чым узбекаў», — каментуе такі парыў выданне «Росбалт».

Радыкальныя заявы пра сепарацыю Каракалпакстана, на думку экспертаў, пакуль не выходзяць за межы гурткоў мясцовай нацыяналістычнай інтэлігенцыі. Масавых антыўзбекскіх забабонаў на берагах Аральскага мора няма. У тым ліку лакалізаваць праблему дапамагае працоўная міграцыя. Аднак калі Масква або Астана сапраўды дашлюць сепаратыстам выразны сігнал падтрымкі, тэма незалежнасці Каракалпакіі можа стаць актуальнай.

Прычым справа не абмяжуецца пратэстамі на поўначы, дзе знаходзіцца Каракалпакстан. Могуць патрабаваць больш правоў таджыкскія анклавы ў Бухары і Самаркандзе — гарадах, якія, на думку таджыкаў, незаконна дасталіся Узбекістану.

На думку польскай прэсы, лозунг далучэння да Расіі ўвогуле здольны стаць папулярнай фішкай для часткі апазіцыі Сярэдняй Азіі, якая выступае супраць мясцовых рэжымаў. Партал onet.pl прагназуе, што, хутчэй за ўсё, будзе ваяваць пад трыкалорам антыўрадавая групоўка ў таджыкскім Паміры, якая з мінулага года вядзе партызанскую барацьбу супраць Душанбэ. Дэманстратыўная прарасійскасць тут гуляе чыста сімвалічную ролю супрацьпастаўлення сябе кланам, якія кантралююць уладу ў сталіцах.

Заходняя прэса не верыць у тое, што Масква сапраўды пойдзе так далёка, што паўторыць крымскі сцэнар у Каракалпакстане. Аднак падтрымліваць крамольныя сепаратысцкія думкі яна, хутчэй за ўсё, паспрабуе, хаця б дзеля шантажу Ташкенту. Цікавая ў гэтым плане інфармацыя з рэсурсу «Wikileaks», на якім выкладваецца сакрэтная ўнутраная дакументацыя амерыканскіх дыпламатаў. Аказваецца, у 2008 годзе, пасля таго, як у падполлі была створаная Партыя нацыянальнага адраджэння «Свабодны Каракалпакстан», якая абвінаваціла Узбекістан у генацыдзе каракалпакскай этнічнай групы, пасольства ЗША ў Ташкенце зрабіла спецыяльнае даследаванне, наколькі такія заявы маюць пад сабой грунт.

У выніку даследавання дыпкорпус перадаў у Вашынгтон рапарт пра тое, што заява сепаратыстаў «з'яўляецца часткай расійскай кампаніі па распаўсюджванні дэзінфармацыі, накіраванай супраць імкнення Карымава збалансаваць адносіны з Захадам».

Аднак, якім бы несур'ёзным і фэйкавым не быў характар прарасійскага руху ў Нукусе (сталіца Каракалпакіі), Масква працягне фліртаваць з ім. У тым ліку таму, што сыход у лепшы свет 75-гадовага хворага Іслама Карымава — пытанне бліжэйшых гадоў. З кандыдатурай пераемніка прэзідэнт так і не вызначыўся, што ў выпадку ягонай нечаканай смерці можа выклікаць маштабны хаос, які дазволіць разыграць каракалпакскую карту. Прынамсі на сайце руху «Вольны Каракалпакстан» суайчыннікаў адкрытым тэкстам заклікаюць пачаць нацыянальна-вызвольнае паўстанне менавіта ў дзень смерці Карымава.

# Парашэнка, Цімашэнка, Добкін…

Алег НОВІКАЎ

**Украінскі ЦВК афіцыйны закончыў рэгістрацыю кандыдатаў на ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах. Пакуль палітыкі рыхтуюцца да актыўнай фазы кампаніі, эксперты прапануюць свае сцэнары выбараў і іх вынікаў.**

ЦВК зарэгістраваў 21 кандыдата ў прэзідэнты Украіны — 18 мужчын і 3 жанчын. На думку большасці экспертаў, сапраўдная барацьба разгарнецца паміж 3–4 фігурамі ўкраінскай палітыкі. Таксама ніхто не сумняваецца, што перамогу выбараў назаве толькі другі тур.

Хутчэй за ўсё, у другі тур, паводле меркавання шмат каго, выйдуць Пётр Парашэнка і Юлія Цімашэнка. Такая драматургія можа спачатку падацца дзіўнай. Нягледзячы на тое, што Майдан увесь час патрабаваў новых твараў у палітыцы, Пётр і Юлія — даўно вядомыя персанажы мясцовай палітсцэны.

Больш таго, іх біяграфіі нельга назваць стэрыльнымі з пункту гледжання актывістаў Майдану. Парашэнка належыць да гільдыі самых багатых алігархаў, і нават у свой час быў адным з заснавальнікаў Партыі рэгіёнаў. Таксама ён паспеў папрацаваць у складзе кабінетаў Януковіча і Азарава.

Пры згадванні імя Цімашэнка часта прыгадваюць таксама дэфолт 2009 года, супярэчлівыя прыватызацыйныя схемы днепрапятроўскага клану, сябрам якога была Цімашэнка, вельмі супярэчлівыя газавыя кантракты з Пуціным. Праўда, эксперты кажуць, што нічога дзіўнага ў высокіх рэйтынгах «шакаладнага караля» і «газавай прынцэсы» няма. Украінцы — народ кансерватыўны і звычайна галасуюць па прынцыпу «каб не было горш».

Калі тандэм Юліі Цімашэнка і Пятра Парашэнкі пройдзе ў другі тур, то больш шансаў на перамогу мае, безумоўна, Парашэнка. Ён лепш, чым Цімашэнка, можа дамаўляцца з Усходам, дзе жывуць 45 працэнтаў выбаршчыкаў. Таму Юлія з яе моцнай антыпуцінскай рыторыкай пакуль робіць стаўку на электарат Захаду і Цэнтра. Аднак тут шмат людзей у тым ліку галасуюць за «УДАР», чый лідар Віктар Клічко нечакана адмовіўся ад балаціроўкі ў прэзідэнты на карысць Парашэнкі. Клічко цяпер збіраецца ісці ў мэры Кіева, аднак усе лічаць, што ён упусціў шанец стаць украінскім гарантам. Чаму бакcёр адмовіўся ад прэзідэнцкіх амбіцый, прычым маючы другі рэйтынг пасля Парашэнкі, дасюль не вядома.

Пры ўсіх мінусах, Цімашэнка ўсё ж мае шанс абскакаць «шакаладнага зайца» (адна з мянушак Парашэнкі). Лэдзі Ю — цудоўны аратар. А паколькі фінальным этапам кампаніі дакладна стануць тэледэбаты асноўных кандыдатаў, да апошняга дня нельга спісваць яе з рахунку. Па-другое, Парашэнка — сталы чалец клубу алігархаў, якіх так не любіць украінскі абывацель. Юлія дакладна будзе гуляць на тэме вайны з алігархамі.

Тое, што Парашэнка і Цімашэнка належаць да лагеру Майдану, дазваляе некаторым экспертам прагназаваць выхад у другі тур Міхаіла Добкіна — прадстаўніка Партыі рэгіёнаў. Такое сапраўды магчыма, калі Усход будзе галасаваць кансалідавана за свайго, а сімпатыі аранжавых падзеляцца паміж Парашэнкам і Цімашэнка. Аднак для прарыву экс-губернатара Харкаўскай вобласці трэба будзе шмат папрацаваць.

> Самы экзатычны кандыдат — Дарт Вейдар — проста вырашыў папулізаваць любімую кінасагу «Зорныя войны»

Цяперашні рэйтынг Добкіна — каля 4 працэнтаў, не кажучы пра тое, што на Усходзе ў яго хапае канкурэнтаў: лідар Кампартыі Пётр Сіманенка, аднапартыйцы Добкіна — Сяргей Цігіпка і Алег Цароў, якія ідуць на выбары аўтаномна, і іншыя. Праўда, калі нават Добкін справіцца з задачай і выйдзе ў другі тур, шансаў перамагчы Парашэнку ў яго пакуль няшмат.

А вось калі ў фінал выйдзе Цімашэнка і Добкін, то перамога гарантаваная жанчыне з касой. Хаця ў гэты сюжэт мала хто верыць. Так ці інакш, такую версію развіцця падзей яшчэ неяк разглядаюць. Варыянты з выхадам у фінал іншых палітыкаў, акрамя згаданых вышэй, падаюцца фантастыкай.

Хутчэй за ўсё, прызнаюць гэта і самі кандыдаты. Яны вырашаюць на выбарах тактычныя задачы. Так, Сіманенка яўна намагаецца не дапусціць з'яўлення на левым і прарасійскім флангу новых фігур. Сяргей Цігіпка вядзе лінію на вяртанне на сцэну партыі «Сільная Украіна», якую калісьці ён сам інкарпараваў у склад Партыі рэгіёнаў. Напэўна, самы экзатычны кандыдат — Дарт Вейдар — проста вырашыў папулізаваць любімую кінасагу «Зорныя войны». Дарэчы, Дарт Вейдар — гэта яго сапраўднае імя і прозвішча па пашпарце. Ва Украіне можна браць сабе новае імя і прозвішча ў гонар каго заўгодна.

Асобна трэба ўзгадаць Алега Ляшко — лідара «Радыкальнай партыі», які праславіўся сваімі радыкальнымі выхадкамі, накшталт раздачы вілаў на Майдане для нападу на супрацоўнікаў МУС. Ён становіцца кумірам радыкалаў, і менавіта яму могуць перайсці галасы былых выбаршчыкаў «Свабоды». «Свабода», між тым, маргіналізуецца на вачах. Скандалы з удзелам яе лідараў, якія смакуюць расійскія СМІ, зрабілі партыі Цягнібока імідж пятай калоны Крамля, якая павінна, паводле задумкі крамлёўскіх піяршчыкаў, кампраметаваць Майдан. Хаця Цягнібок таксама ідзе на выбары, нічога сур'ёзнага ад яго не чакаюць. Наўрад ці яму дапаможа і магчымы блок з «Правым сектарам». Дзмітрыя Яраша таксама падазраюць у тым, што ён і яго штурмавікі свядома або несвядома дапамагаюць Маскве стварыць патрэбную ёй тэлевізійную карцінку падзей ва Украіне.

Маскоўскі фактар, безумоўна, будзе адным з самых вырашальных у кампаніі. Як вядома, пакуль пуцінская адміністрацыя ўпарта лічыць галасаванне 25 мая нелегітымным. Ёсць верагоднасць, што прамаскоўскім актывістам ва Украіне можа напярэдадні выбараў прыйсці інструкцыя — актыўна байкатаваць выбары для далейшай эскалацыі абстаноўкі. Нават калі Расія не будзе зрываць выбарчы працэс, яе СМІ так ці інакш могуць моцна паўплываць на настроі выбаршчыкаў. Магчыма, у Крамлі будуць гуляць на раскол Майдану, зліваючы на яго лідараў кампрамат або, наадварот, надаючы некаторым з іх штучную піяр-падтрымку.

Увогуле, тое, што прэзідэнцкая кампанія праводзіцца ва ўмовах непасрэднай знешняй пагрозы і працягу вылазак сепаратыстаў, робіць яе вельмі незвычайнай. Аднак тут ёсць і негатыўны бок. Таму ж Добкіну і Сіманенку абсалютна няма чаго лавіць у Львове, акрамя рызыкаў для асабістага здароўя. У сваю чаргу, цяжка ўявіць сабе выбарчы тур Цягнібока або Яраша па Данбасу. Усё гэта нагадвае элементы таго самага расколу краіны, якога прагне пазбегнуць уся ўкраінская палітычная эліта. Будзем спадзявацца, што пазітыўныя моманты пераадолеюць негатыўныя. Напрыклад, на гэты раз будзе менш адміністрацыйнага рэсурсу і, адпаведна, менш ціску на выбаршчыкаў і выбарчыя камісіі, што дае шанс стварыць новы эталон выбараў ва Украіне.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Алег Саўчанка



З падачы дэпутата партыі «Адзіная Расія» ў парламенце рыхтуюць законапраект, які прапануе маркіраваць любую інфармацыю, звязаную з гістарычнымі падзеямі. Дакладней кажучы, стваральнікі фільмаў, кніг і гульняў пад пагрозай адміністрацыйнай адказнасці павінны загадзя папярэджваць грамадзян аб наўмысным скажэнні мінулага. Таксама законапраект патрабуе вяртання ў вучэбныя праграмы палітінфармацыі. Асобным пунктам той жа законапраект патрабуе абавязковыя экскурсіі для расійскіх школьнікаў у Валгаград і Брэсцкую крэпасць. Не менш адыёзны закон прапанаваў Вадзім Салаўёў з КПРФ. Ён ініцыюе законапраект аб патрыятычнай адукацыі чыноўнікаў (адзін з параграфаў дакументу забараняе чыноўніку мець іншамарку). Склаў канкурэнцыю Саўчанку і Алег Міхееў («Справядлівая Расія»). Паводле яго законапраекту, грамадзяне будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці за распаўсюджванне недакладнай інфармацыі, «якая падрывае аўтарытэт Расійскай імперыі, СССР, Расійскай Федэрацыі, іх узброеных сілаў». Хаця ўчынкі Саўчанка, Салаўёва і Міхеева ўжо назвалі «эксцэсамі ідыятызму», усе згодныя, што на гэтым патрыятычны заканадаўчы сверб у дэпутатаў не закончыцца.

### Грэгар Гузі



Гузі, лідар нямецкай партыі «Левыя», стаў і лідарам дэпутацкай групы, якая крытыкуе ўрад Меркель за яго пазіцыю ва ўкраінскім крызісе. Гузі абвінавачвае кабінет у тым, што ён падтрымаў, на яго думку, нелегальны путч і сімпатызуе ўраду Яцанюка, у склад якога ўваходзяць правыя радыкалы. Пры гэтым у доказ сваіх тэзісаў Гузі даваліся пікіравацца не толькі з кансерватарамі Ангелы Меркель, аднак таксама з эсдэкамі і «Зялёнымі». Апошнія разглядаюць Майдан як «мужны грамадскі рух», а прысутнасць міністраў ад нацыяналістычнай «Свабоды» ў цяперашнім украінскім урадзе лічаць часовай з'явай. Пры гэтым узгадваюць, што той жа Лех Валэнса таксама выйшаў з вельмі нацыяналістычных клерыкальных колаў, аднак пасля здолеў стаць дэмакратам. Так ці інакш, спрэчкі вакол Украіны аказаліся настолькі эмацыйныя, што прэса піша аб краху любых перспектыў стварэння кааліцыйнага ўраду з удзелам эколагаў, эсдэкаў і «Левых». Яшчэ ўвосень перспектыва стварэння такога адзінага левага ўраду на месцы цяперашняй вялікай кааліцыі з удзелам сацыял-дэмакратаў і кансерватараў выглядала дастаткова рэальнай.

### Уільям Джэферсан Хейг



Міністр замежных спраў Вялікабрытаніі ўсур'ёз разглядае пытанне ўвядзення брытанскіх вайскоўцаў на курорты Егіпта для абароны турыстаў ад магчымых атак ісламістаў. Лічыцца, што ў хуткім часе першая група жаўнераў прыбудзе на славуты курорт Шарм-Аль-Шэйх. Называецца лічба ў тысячу чалавек. Праўда, гэта не будзе выглядаць як класічная вайсковая аперацыя. Брытанцы прыедуць са згоды ўраду Егіпта і будуць выглядаць як звычайныя супрацоўнікі ахоўных структур. Па сутнасці, яны будуць прыпісаныя да аховы курортаў. Пайсці на такія незвычайныя меры брытанскі МЗС, быццам, прымусілі апошнія выхадкі егіпецкіх ісламістаў, якія абвясцілі сапраўдную вайну замежным турыстам. Егіпецкія ўлады, быццам, таксама не супраць прыбыцця брытанцаў, паколькі цяпер усе наяўныя сілы рэжыму кінутыя на забеспячэнне бяспекі падчас прызначаных на май прэзідэнцкіх выбараў. Каір і Лондан, кажуць, ужо дамовіліся, што пасля выбараў у маі бакі вернуцца да пытання прысутнасці брытанскіх сілавікоў на егіпецкіх курортах, аднак, на думку СМІ, яны могуць там застацца і даўжэй, асабліва з улікам таго, якую важную ролю турыстычны сектар адыгрывае ў эканоміцы Егіпта.

# Тастамент Рыгора Барадуліна

Сяргей ШАПРАН

**10 красавіка — саракавіны па Рыгору Барадуліну. Ён пайшоў у даравальную нядзелю, увечары 2 сакавіка. Са ўсімі ў апошнія свае дні пагаварыўшы, са ўсімі, па сутнасці, так ці інакш развітаўшыся.**



**Апошняе фота Рыгора Барадуліна. 2 сакавіка 2014 года, 20 гадзін 30 хвілін.** Фота Глеба Лабадзенкі

За тыдзень да гэтага ён адзначыў сваё 79-годдзе і 53 гады, як пабраўся шлюбам з жонкай Валянцінай Міхайлаўнай. І апошнія яго словы былі звернуты менавіта да яе: «Якая ты ў мяне прыгожая»...

Ён даўно ўжо прадчуваў свой сыход — пра тое Барадулін пісаў у вершах, пра тое папярэджваў блізкіх сяброў, пра тое без ані ценю засмучэння гаварыў падчас нашых з ім сустрэч і гутарак...

***— У Уладзіміра Огнева ёсць такія радкі: «Самое страшное в старости — когда не стареешь. Живу, как тот мальчик у Брэдбери — без возраста, во времени где-то остановившегося возраста...» Гэта сугучна выказванню Оскара Уайльда: «Страшно не то, что человек стареет, а что душой остается молод». Дый вы самі некалі напісалі: «...душа маладая, Ты, як вецер, стары...»***

— Фізічная старасць сапраўды страшная, але самае галоўнае, каб душа заставалася маладой — чалавек датуль жыве, пакуль яго душа маладая, а ўжо калі старэе і душа, тады ніякае цела не ўратуе. Менавіта душа трымае чалавека на зямлі. Калі ж яна, састарэўшы, адыходзіць, тады і чалавек адыходзіць следам за ёй.

***— Але колькі гадоў вашай душы?***

— Ну, гэта як калі: парой гадоў трыццаць пяць, парой — пяцьдзясят. Але не болей. Вось калі табе добра, тады і нешта пішацца, і вяртаешся ў ранейшыя гады, а як дрэнна, дык адразу адчуваеш, што ўжо стары. Так што гэта ўсё перманентна.

***— Такім чынам, на працягу толькі аднаго дня вы можаце быць і маладым, і старым?***

— Так. Бывае, што прачынаешся і думаеш: хачу на Бутаўшчыну, да мамы. А на другі дзень думаеш: не, яшчэ рана. Ды і нелька сабірацца... Калі ж усё-такі сабраўся паміраць... усё як Бог дасць...

## «Я хацеў бы быць блізкім па духу Купалу»

***— Старэйшы сын Васіля Быкава Сяргей распавядаў, як неяк заўважыў бацьку, што той нарадзіўся не ў той час і не ў той краіне, але Васіль Уладзіміравіч адказаў на гэта, што сапраўды не ў той час, але ў краіне — той. А што б вы сказалі, калі б нехта сказаў у ваш адрас тое ж самае?***

— Я лічу, што нарадзіўся ў той час і, канешне, толькі ў гэтай краіне павінен быў нарадзіцца. І калі б у мяне быў такі выбар, я б не сумняваўся і сказаў: толькі тут, менавіта тут.

***— І менавіта на Вушаччыне?***

— І менавіта на Вушаччыне — там, дзе жылі ўсе мае продкі. Я ніколі не хацеў у другой краіне нарадзіцца. У гэтай краіне нарадзіўся, тут і хачу памерці... Вось многія баяцца, што іх не пахаваюць на Маскоўскіх могілках, што трэба нейкія заслугі, але я не хачу стаць у гэтай чарзе, якая ў савецкі час... Дый, урэшце, у традыцыі крывічоў хаваць на той зямлі, на якой нарадзіўся, тады і павінен вярнуцца. Мне спакойна будзе з мамай, на Бутаўскім могільніку. З гэтай зямлі я прыйшоў — у гэтую зямлю пайду. Думаю, што там я сустрэну сваіх землякоў, сяброў... Душа, паўтаруся, яна вечная, а цела, як вам сказаць, яно як, дапусцім, адзенне — сёння моднае манто, заўтра — паліто, а паслязаўтра — фуфайка ў савецкіх канцлагерах.

***— Аднойчы падчас паездкі на Вушаччыну мы наведалі з вамі бычкоўскія могілкі, дзе пахаваныя бацькі і брат Васіля Быкава, і ўпершыню за многія гады вырашылі паглядзець усе могілкі. А яны пэўна ж надта старыя, яшчэ з паганскіх часоў, таму што далей ляжалі адны толькі старажытныя валуны, да якіх даўно ніхто не прыходзіць. І пасля калі мы наведалі месца, дзе некалі стаяла хата сябра дзяцінства Быкава Валодзі Галавача, вы раптоўна сказалі: «Хачу, каб у мяне на магіле быў валун»...***

— Так, валун і крыж. Не хачу я помнікаў. Па-першае, помнік не будзе за што ставіць, да таго ж, гэта традыцыя яшчэ савецкіх часоў. Я хачу, каб быў толькі вушацкі валун. Я некалі пісаў пра гэта:

*Калі я адыду, пастаўце мне*
*Валун сівы і крыж на валуне.*

Я ж многа могільнікаў бачыў, у тым ліку і на Вушаччыне, але каб было цэлае поле камянёў, як на бычкоўскім могільніку... Камяні — яны як людзі: кожны са сваім аблічам, са сваім характарам. І каб на вушацкіх каталіцкіх могілках былі б не крыжы, нават і гранітныя, а камяні, іх не знішчылі б. Камень — гэта надмагілле з часоў паганства, з сівой даўніны, крыж з'явіўся пазней. Таму, як бы там ні было, але хрысціянства ўсё-ткі падладжвалася...

***— Глебай для хрысціянства было паганства.***

— Так, паганства.

***— Ці лепей было б сказаць: паганства — гэта тая глеба, на якой узрос крыж хрысціянства.***

— Так-так. Таму самае лепшае надмагілле — гэта камень.

***— У адным з апошніх вашых вершаў:***

***Я пачынаю баяцца вечара.***
***Бо за вечарам следам прыйдзе яна,***
***Мая апошняя ноч. І вечная.***

***Адкуль гэтае веданне ці прадчуванне?***

— Гэта нейкае падсвядомае адчуванне, што я павінен адысці ноччу. Не ведаю, калі я прыйшоў на свет, — мама мне гаварыла, але я не помню, аднак на спачын і так, і на спачын вечнасці лепш ісці ноччу. Днём яшчэ многа незакончаных спраў... Клопаты і справы могуць не адпусціць. Праўда, там таксама будуць справы, але ўжо новыя.

***— Таксама будуць?***

— Канешне. Там трэба будзе даваць справаздачу, што зрабіў, Усявышняму, спавядацца перад Усявышнім. Я ў гэта свята веру.

***— А інакш навошта гэта ўсё было?***

— Так. Бог паслаў нас на зямлю на выпрабаванне, каб, паўтараючыся, жыць далей. Я лічу, што душа паўтараецца — яна пасля зноў сюды вяртаецца... Канешне, такіх ведаў у мяне няма, але ёсць такое адчуванне.

***— Значыць, і вашая душа тут не ўпершыню.***

— Канешне, не.

***— У гэтай сувязі: хто вам бліжэй з гістарычных асобаў — ці прыкладам свайго жыцця, ці па характары?***

— (Задумваецца.) З гістарычных асобаў... (Паўза.) Каліноўскі, які быў пасланы паднядзь дух беларускі... (Праз паўзу.) Купала! Купала, канешне.

***— У першую чаргу ўсё-ткі Купала?***

— Так, Купала. Я не раўняю сябе з Купалам, але хацеў бы быць блізкім яму па духу, таму што Купала — гэта самаахвярніцкая натура, і ён таксама быў пасланы на гэтую зямлю на выпрабаванне...

Гэта ж вядома па Бібліі, што няма прарока ў сваёй Айчыне. І сучаснікі ніколі не маглі ацаніць... Калі паднядзь крытыку тых гадоў, дык як тады вульгарна ацэньваўся Купала! І як цяпер — гэта вялікая розніца. Але тут яшчэ ёсць элемент абагаўлення — ён таксама не бяспечны, таму што апосталаў трэба ўспрымаць як жывых людзей, усё-ткі гэта зямныя апосталы. У іх трэба бачыць і самае высокае, і нейкія зямныя чалавечыя недахопы. А калі рабіць з іх ікону, гэта таксама не на карысць нацыі, не на карысць развіцця думкі, літаратуры і культуры.

***— А вось тое, што Бог даў вам жыццё даўжэйшае, чым, дапусцім, Янку Купалу, у гэтым жа таксама ёсць нейкі сэнс?***

— Я, канешне, удзячны Богу за тое, што жыву, а з другога боку, часам мне хочацца ўжо туды, як гэта ні сумна, таму што... Таму што я баюся перажыць сябе самога. І адзінае, што хачу, — гэта памерці Барадуліным.



**Апошні верш Рыгора Барадуліна датаваны 28 лютага і прысвечаны сябру маладосці Генадзю Бураўкіну**

## «Я ўпаў бы ў ногі маме і папрасіў прабачэння...»

***— Раней вы казалі, што думаеце, што пасля яшчэ сустрэнеце ўсіх — родных, сяброў...***

— Я лічу, што з усімі і ў першую чаргу з мамай, з усімі-ўсімі роднымі яшчэ сустрэнуся. Ну, і з ворагамі.

***— Прабачце, калі ласка, за гэта пытанне, але калі можаце, адкажыце: што першае вы сказалі б... што скажаце сваёй маме?***

— Як убачу маму... Я сказаў бы... я ўпаў бы ў ногі і папрасіў прабачэння за ўсё, што зрабіў дрэннага... А пасля падзякаваў бы... Па-першае, папрасіў бы прабачэння, таму што я многа-многа зрабіў ёй непрыемнага, дрэннага — як цяпер разумею. Я й да гэтага часу не магу сам сабе дараваць, што ў апошнія гады жыцця мамы мала ёй увагі ўдзяляў, што многа прынёс ёй гаркоты. Я заўсёды малю яе, каб яна мне даравала. І хоць і пісаў ёй вершы, але ўсё-ткі мала вярнуў маме той дабрыні, якую яна мне дала. Яна ж на мяне

жыццё паклала… А тады мне здавалася, як вам сказаць…

***— Тое, што вы сёння называеце — «геніяльна пілі»?***

— Так, была ў мяне і чарка, і ўсё астатняе, гэта, канешне, таксама паскорыла маміну смерць, я дужа яе здароўе падарваў. Гэта самы большы мой грэх… Канечне, я падзякаваў бы маме, што яна дала мне жыццё, што дала мне свет, мову… Я часта паўтараю: усё добрае ў мяне ад мамы, усё дрэннае — ад сябе.

***— А што пераважвае?***

— Пад настрой. Усё-ткі з гадамі я больш скептычна да сябе стаўлюся. Гэта ў маладыя гады здавалася, што я такі ўжо дужа добры, а з гадамі пачынаеш думаць, што не такі ты і добры… Ну, перарабіць тое, што было, перарабіць жыццё немагчыма. Чарнавік жыцця немагчыма перапісаць набела, і даводзіцца дажываць — менавіта дажываць — з віной перад мамай, перад сябрамі… Я заўсёды, калі кладуся спаць, дзякую маме, прашу прабачэння ў мамы і ў тых, хто можа мне прабачыць, каму я зрабіў нешта дрэннае, каго абразіў ці пакрыўдзіў наўмысна і ненаўмысна… Я жадаю маме царства нябеснага, раю, дзякую і прашу прабачэння адначасова.

***— Як вы думаеце, Акуліна Андрэеўна бачыць вас?***

— Я думаю, што бачыць.

***— І дапамагае вам?***

— Памагае, я сам пра гэта прашу ў яе… (Праз паўзу, шэпча.) Мамачка мая, светлая мая мамачка ранішняя, мамачка мая родная, прабач мне і дай хоць на хвілінку спакою…

***— Вы бачыце яе ў снах?***

— Рэдка. Зараз я сны нейкія размытыя сню: бачу іх, а прачынаюся, і сны размываюцца, быццам ветравое шкло. Хаця бываюць і яўныя…

## «Каб я малады не чырванеў за сябе цяперашняга»

***— Каго б вы хацелі яшчэ ў першую чаргу ўбачыць і пра што запытацца? Ці што сказаць, ці памаўчаць з кім?***

— З Быкавым я хацеў бы памаўчаць. З Караткевічам хацеў бы… (Задумваецца.)

***— Ну, чарку там падняць нельга…***

— Я думаю, што там ужо, відаць, можна, таму з Караткевічам я падняў бы чарку, пажартавалі б. А з Быкавым я б памаўчаў і сказаў, як мне было самотна без яго, самотна і няўтульна на зямлі. Яшчэ добра, што застаўся са старых сяброў Генадзь Бураўкін. З астатнімі аднагодкамі мы і не перазвоньваемся, дый мне і хадзіць зараз цяжка… Карацей кажучы, я цяпер жыву, як мядзведзь у бярлозе.

***— Дазвольце яшчэ запытацца…***

— Калі ласка, калі ласка.

***— Але там жа будзе магчымасць — прынамсі, спадзяюся на гэта — убачыць Янку Купалу. Мяркую, у гэтым выпадку вы не станеце маўчаць?***

— Я не думаў аб гэтым… (Праз паўзу.) Я б сказаў… Я падзякаваў бы Богу, што Ён паслаў на Беларусь Купалу, а пасля адбіў бы чалом, як чалавеку, які замацаваў дух нацыі… Багдановічу я пачытаў бы яговыя вершы і сказаў бы, што ў тыя, савецкія часы, калі ўся адукацыйная праграма па літаратуры была ўшчэнт савецкая, яговыя вершы давалі ўражанне пра сапраўдную паэзію. Справа ў тым, што сапраўдных Купалавых вершаў не было ў праграмах — толькі «савецкія», а Багдановіча нічога іншага даць не маглі… Можа, гэта прагучыць як кашчунства, але дзякуй Богу, што Багдановіч не дажыў да савецкага часу і таму не напісаў нічога савецкага.

***— Дзядзька Рыгор, калі загаварылі на гэтую тэму…***

— Калі ласка, калі ласка.

***— Лявон Баршчэўскі пісаў пра вас: «Паэт жахаецца ад думкі, што «адышоў далёка ад сябе, ад утрапёнага і маладога», «ад шчырага ў сваім святым наіве», і моліць Бога, каб ён даў яму яшчэ пэўны тэрмін на здзяйсненне апошняга жадання — «хачу вярнуцца да сябе самога». Як вы думаеце, якімі б вачыма паглядзеў на вас сённяшняга той Рыгор Барадулін, які з адным чамаданчыкам, у якога прама на вакзале адарвалася ручка, прыехаў летам 1954 года з Вушачы ў Мінск?***

— На сённяшняга ён паглядзеў бы як на старога, хворага і… (праз паўзу) мала каму патрэбнага чалавека… Хоць нешта яшчэ мяне цешыць і трымае — трымае тое, што я яшчэ самому сабе патрэбен. А так адчуванне, што… ну, я мала каму патрэбен. І не ў тым сэнсе, што хачу быць на разрыў, як «хуткая дапамога»… А вярнуцца да сябе маладога — гэта, канешне, толькі мара, гэта немагчыма… На мой цяперашні розум, я многага б не рабіў — многае б не пісаў, многае б не перакладаў. Але, з другога боку, я не магу не рабіць. Гэта не ад мяне залежыць, гэта наканаванне такое, гэта лёс



Рыгор Барадулін з жонкай Валянцінай Міхайлаўнай

такі… Ужо не гаворачы пра быт, пра тое, што палова той адзежы, што ёсць, мне не трэба, аднак у маладыя гады хацелася і апранаўца, але з узростам ужо абы хутчэй, абы цяплей і зручней. Між тым, чалавек усё жыццё нешта набывае-набывае, стараецца, а ён жа які прыходзіць, такі практычна і адыходзіць — ён прыходзіць голы і адыходзіць голы. І пад старасць пачынаеш разумець, што ўсё гэта прах прахам. У тым ліку і грошы, якіх у мяне ніколі многа не было. Так што… З другога боку, я не мог бы размінуцца той з цяперашнім. Пасядзелі б, падумалі: ці варта было ўсё гэта?.. Самае галоўнае, каб таму маладому не было сорамна за мяне цяперашняга.

***— Вы б гэтага хацелі ці ўпэўнены ў гэтым?***

— Я хацеў бы, таму што я не ўпэўнены. Я б хацеў, дужа хацеў, каб яму было не сорамна за мяне цяперашняга, за ўсе мае ўчынкі, правіны, грахі, за набыткі, за страты. Гэта самае галоўнае — каб не было сорамна, каб не чырванеў за сябе цяперашняга.

## «Маё Ватэрлоа»

***— Гэта адзін з галоўных матываў вашых апошніх вершаў — тэма непазбежнага сыходу:***

***…І чую,<br>Як маркотна плача,<br>Пакуль маркоўнік не прычах.<br>І адчуваю,<br>Як Вушача<br>Змяркаецца ў маіх вачах.<br>І як не вырвецца з сяродкі<br>Душа —<br>Яе гукнулі продкі.***

***У гэтай сувязі прыгадваецца зноў жа Уладзімір Огнеў, які пісаў: «Долгое время говорили, что Наполеона отравили мышьяком англичане. Недавно установили: отравления не было, умер смертью естественной — рак желудка. Вспоминается Герцен: Наполеону сказали, что у него рак внутри. Он возразил: «У меня внутри Ватерлоа». Калі карыстацца вызначэннем Огнева, у чым заключаецца вашае Ватэрлоа?***

— Параза?.. (Пасля паўзы.) Мне не дае спакою вынішчэнне ўсяго беларускага, якое адбываецца проста на маіх вачах. На маіх жа вачах было хай фармальнае, але хоць нейкае адраджэнне, гэта яшчэ пры камуністах…

***— Маеце на ўвазе гарбачоўскую перабудову?***

— Так-так, а тут кожны дзень, кожны дзень усё знішчаецца, знішчаецца, знішчаецца… Я не магу гэта перажыць, не магу… Невыпадкова я калісьці напісаў: «Хаця б памерці давялося У беларускай Беларусі».

***— Калі б Беларусь была беларускай, тады і настрой ваш…***

— Быў бы абсалютна нармальны. Я б сябе чалавекам адчуваў. Я ўсё-такі гаспадар гэтай зямлі, я сын гэтай зямлі, але адчуваю сябе тут абарыгенам.

***— Іншаземцам.***

— Так-так, мне вельмі даспадобы гэты геніяльныя ясенінскі радок: «В своей стране я словно иностранец», памятаеце? Я пераклаў яго: «Я ў родным краі, як іншакраінец».

***— А ў вас ніколі не было спакусы з'ехаць з Мінска, як гэта некалі зрабілі тыя ж Ігар Шклярэўскі, Іван Бурсаў, Ванкарэм Нікіфаровіч?***

— Ніколі. Нельга так пра сябе гаварыць, але я занадта беларус. Нават занадта. Па свайму светаўспрыманню я сябе не беларусам не ўяўляю. Інакш я б быў загінулым чалавекам. Я не ўяўляю сябе за межамі Беларусі і за межамі беларускай мовы, культуры. Інакш мяне проста не было б. І калі ёсць ува мне што добрае, дык гэта ў тым ліку дзякуючы беларускасці.

***— У Міхася Скоблы: «Хто з творцаў носіць пярсцёнак з вывяй «Пагоні» — як знак вечнага шлюбу з Айчынай? Адзін Барадулін». Тут адна толькі вобразнасць ці ўсё-ткі Міхась не памыліўся?***

— Канешне, Міхась не памыліўся. «Пагоня» ў маёй душы яшчэ ад Багдановіча, калі я ў школе чытаў яго «Пагоню», якая мне вельмі падабалася.

***— Між іншым, запомнілася, як рыжскі мастак Вячка Целеш тлумачыў, чаму з'ехаў з Беларусі і чаму не хоча вяртацца сюды, — ён сказаў: «Лепей быць чужым у чужой краіне…»***

— Геніяльна!

***— «…чым чужым на сваёй зямлі».***

— Правільна-правільна. Разумееце, вось сядзіш дома і нешта пішаш, чытаеш і быццам бы жывеш у беларускай Беларусі. Аднак як толькі ўключаеш тэлевізар ці радыё ці выходзіш за дзверы, на цябе глядзяць як на туземца! Толькі што не зрабілі рэзервацыі для беларусаў, як у Амерыцы — рэзервацыі для індзейцаў. Гэта настолькі падточвае арганізм, настолькі раздражняе і псуе нервы, выклікае такую гаркоту… Трэба мець металічныя нервы ці іншы выхад — піць альбо кідацца з дваццатага паверха. Але трэба жыць…

Гэта і ёсць самае страшнае маё Ватэрлоа, прынамсі, як у кожнага нармальнага беларуса… Я ж не супраць Расіі, я не супраць нікога і нікога не прымушаю гаварыць па-беларуску, але яны ж павінны паважаць. Ды дзе там — нават павагі няма! І самае цікавае, што ў першую чаргу не паважаюць не прыезджыя расіяне — свае. І ўсё таму, што такі прыклад падае наша «вертыкаль»…

## «Прыйдзецца паміраць у тым, што ёсць…»

***— У вашых вершах:***

***Нябыт абыякава ўсё праглыне.<br>Я цешыцца<br>Марнай надзеяй гатовы,<br>Што нехта захоча<br>Сказаць пра мяне:<br>Ён быў на паслугах<br>У матчынай мовы.***

* * *

***Калі мая трывога спала,<br>Калі калоссе налілося<br>Тугой?<br>Сказаць я не бяруся.<br>Як нарадзіцца не прыпала,<br>Хаця б памерці давялося<br>У беларускай Беларусі…***

***Ці ёсць гэта вашыя апошнія жаданні — памерці ў беларускай Беларусі і, пайшоўшы назаўсёды, застацца на зямлі беларускім словам?***

— Так-так, гэта мае пажаданні, спадзяванні. Праўда, спадзяванні, якія, відаць, ніколі не здзейсняцца, асабліва апошняе. Ну, прыйдзецца паміраць у тым, што ёсць. Нікуды ад сябе не ўцячэш.

***— Я вам, шаноўны дзядзька Рыгор, сапраўды шчыра жадаю яшчэ многіх гадоў жыцця і добрага здароўя, але калі б вас папрасілі нейкі тастамент нашчадкам пакінуць, што б вы сказалі ў будучыню, у вечнасць?***

— Тастаменты нашчадкам у вечнасць небяспечна гаварыць… Я б пажадаў, каб яны заставаліся беларусамі, каб заставаліся сумленнымі і каб не прадавалі душу, бо хто прадасць душу, таго няма. Самая, відаць, галоўная праца, галоўнае змаганне на зямлі — вось гэты біблейскі пастулат: каб ты захаваў сваю душу. Колькі я жыў, увесь час імкнуўся захаваць яе. Не ведаю, наколькі мне гэта ўдалося, але я — стараўся.

Аляксей ХАДЫКА

# Дзень смеху? Не, ужо 435 гадоў — дзень беларускага студэнта

**1 красавіка 1579 года Стэфан Баторый зацвердзіў прывілей пра заснаванне Віленскага ўніверсітэта. А ўвосень у першай вышэйшай школе Беларусі некалькі соцень маладых людзей увайшлі ў аўдыторыі.**

Найстарэйшая навучальная ўстанова на Усходзе Еўропы ўзнікла настолькі даўно, што зразумець гэта лягчэй у параўнанні: да ўзнікнення Маскоўскага ўніверсітэту было яшчэ доўгіх 176 гадоў — гістарычная бездань.

Ля вытокаў стварэння ўніверсітэта — у поўнай назве, паводле булы Папы Рыгора XIII, які пацвердзіў фундацыю 30 кастрычніка 1579 года, Almae academia et universitas Vilensis societatis Jesu — стаяў ураджэнец Крайска Мінскага ваяводства віленскі біскуп Валяр'ян Пратасевіч. Асоба, вядомая і ў свецкай дзейнасці: з 1566 па 1577 гады ён кіраваў соймавай камісіяй па падрыхтоўцы Статута ВКЛ, з якім часцей звязваюць імёны Астафія Валовіча і Льва Сапегі. Яго бібліятэка, што па смерці біскупа перайшла вучэльні, — дагэтуль захоўваецца ў Вільні.

А пачаў Пратасевіч з запрашэння ў Вільню езуітаў — найбольш актыўнага і адукаванага каталіцкага ордэну таго часу, і адкрыцця ў 1570 годзе калегіі, падставовай пяцігадовай вучэльні, дзе апрача царкоўных дысцыплін навучалі старажытным мовам, матэматыцы, геаграфіі, гісторыі, паэзіі. Рыхтавалі глебу і навучэнцаў для паступлення на філасофскія факультэты ўніверсітэтаў. Уласна, менавіта філасофскі (з трохгадовы курсам) і тэалагічны (з чатырохгадовым) дадала праграма Academia Vilensis.

Акадэмія паўстала як каталіцкая ўстанова — але час свецкіх універсітэтаў надышоў толькі ў XIX стагоддзі. Акрамя таго, праваслаўныя інтэлектуальныя сілы тады гуртавала Славяна-грэка-лацінская акадэмія, заснаваная князем Канстанцінам Астрожскім у Астрозе на Валыні ў 1576 годзе. З пункту гледжання міжрэлігійнага суперніцтва, першапачаткова Віленскі ўніверсітэт мусіў найбольш супрацьстаяць уздыму пратэстантызму, да якога ў XVI стагоддзі актыўна хіліліся дзеці вялікалітоўскіх магнатаў, атрымліваючы адукацыю ў нямецкіх і швейцарскіх універсітэтах.

Не выпадкова Пратасевічу і Стэфану Баторыю спатрэбіліся намаганні, каб на фундацыйным прывілеі, як таго патрабаваў закон ВКЛ, з'явілася пячатка канцлера ці віцэканцлера — абодва вызнавалі кальвінізм. Урэшце, згоду даў віцэканцлер Астафій Валовіч. Разуменне патрэбы



Марцін Кобер. Партрэт Стэфана Баторыя. 1583 г.

адукацыі, нават ва ўмовах міжканфесійных спрэчак, перамагло. Што падкрэсліў адзін з кіраўнікоў езуіцкай калегіі Б. Гастовін: «У Вільні і па суседству з ёй пражывае мноства розных народнасцяў, якія езуіты здольныя адукоўваць і падымаць іх культуру».

Першым рэктарам і сузаснавальнікам універсітэта стаў слынны польскі тэолаг, гісторык, выдатны прамоўца, названы сучаснікамі «Залатавустам», Пётр Скарга, які сабраў інтэрнацыянальны склад таленавітых выкладчыкаў. Роўныя ўмовы вучням усіх нацыянальнасцяў забяспечвалі лекцыі і заняткі на латыні: у выніку ў Вільні навучаліся не толькі карэнныя жыхары дзяржавы, але і студэнты з усёй Еўропы. У 1583 годзе пры Акадэміі ўзнікла Папская семінарыя, спецыяльна прызначаная для «русінаў і маскавітаў», падкрэсліўшы адкрыты характар вучэльні і для розных канфесій. Універсітэт, апрача католікаў, прыцягваў і праваслаўных, і пратэстантаў.

Параўнацца па колькасці навучэнцаў з Кракаўскім універсітэтам, дзе ў XVI стагоддзі навучалася да 9600 студэнтаў, Віленская акадэмія адразу не змагла — у 1596 годзе лекцыі слухалі каля 800 чалавек, у 1618-м — 1210. Але за час да 1781 года, калі падпарадкаваная Адукацыйнай камісіі пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) Акадэмія атрымала назву Галоўнай школы ВКЛ, толькі навуковыя ступені ў Вільні атрымалі 4076 выпускнікоў.

Іх адукацыя не зводзілася, натуральна, да тэалагічных штудый. Адразу з часоў заснавання пачаў дзейнічаць студэнцкі тэатр. Апрача прыгожых мастацтваў далучыліся грамадскія і дакладныя навукі. Сын Льва Сапегі Казімір Лявон, каб падкрэсліць ролю сваёй фаміліі ў развіцці правазнаўства, зрабіў фундуш на юрыдычную адукацыю, у сувязі з чым Уладзіслаў IV Ваза, вялікі князь і кароль, 11 кастрычніка 1641 года даў прывілей на адкрыццё юрыдычнага і медыцынскага факультэтаў. У 1667 годзе адчынілася кафедра музыкі, праз 10 гадоў — палітыкі. XVIII стагоддзе адзначылася развіццём лінгвістычных штудый і дакладных даследаванняў: з 1752 года выкладалася вышэйшая матэматыка.

А калі ў 1753 годзе высілкамі архітэктара і матэматыка Тамаша Жаброўскага пачала дзейнічаць абсерваторыя, фундуш на абсталяванне дала аматарка астраноміі мсціслаўская кашталянка Лізавета Пузына: да падтрымкі адукацыі далучыліся жанчыны. Нарэшце, у 1586–1805 гадах працавала друкарня Акадэміі, пачатак якой паклала ахвяраванае Мікалаем Крыштофам Сіроткам у 1585 годзе абсталяванне з Берасцейскага выдавецтва. Падручнікі на некалькіх еўрапейскіх мовах, слоўнікі, гістарычныя даследаванні, юрыдычная, філасофская, багаслоўская і мастацкая літаратура — ад твораў Арыстоцеля да сучаснікаў — выйшлі з друкарні ў дасканалым паліграфічным афармленні. Гравюры для выданняў стваралі Тамаш Макоўскі, Аляксандр і Лявон Тарасевічы — лепшыя мастакі свайго часу.

Сярод выпускнікоў акадэміі-ўніверсітэта — Мялецій Смятрыцкі, Мацей Сарбеўскі і Сімяон Полацкі, мысляры вышэйшага палёту, каталікі, уніяты, праваслаўныя. Амаль усе пачынальнікі мастацкай школы Беларусі XIX стагоддзя. Студэнты, заснавальнікі таварыстваў філаматаў і філарэтаў, паэты, пісьменнікі, грамадскія дзеячы — А. Міцкевіч, Т. Зан, Я. Чачот, А. Ходзька. У Віленскім універсітэце ў працах М. Баброўскага і І. Даніловіча ў XIX стагоддзі нараджалася гістарычнае і тэарэтычнае разуменне беларускай дзяржаўнасці, актуальнае да сёння. А якія імёны ўвайшлі ў гісторыю геалогіі (І. Дамейка), хіміі (А.Снядэцкі), астраноміі (М. Пачобут-Адляніцкі)! Усіх не пералічыць.

Нават трапіўшы ў склад Расійскай імперыі, Віленскі (з 1803 года — Імператарскі) універсітэт заставаўся буйнейшым у краіне: у 1830 годзе тут налічваўся 1321 студэнт, калі ў Маскоўскім універсітэце лічба навучэнцаў дасягнула 1000 толькі да яго 100-годдзя ў 1855 годзе.

Але ў гады расійскага панавання ўніверсітэт — калыска інтэлектуальнага развіцця — зрабіўся яшчэ апірышчам фронды і нацыянальна-вызвольнага духу. На наступны год пасля падаўлення паўстання 1830–1831 гадоў універсітэт па загадзе цара Мікалая I быў зачынены: апошняя ахвяра карніцкай аперацыі чужынцаў.

Віленскі ўніверсітэт адрадзіўся ў міжваенны час у складзе II Рэчы Паспалітай, добра паслужыў навучэнцам з Заходняй Беларусі. Працягнуў сваю дзейнасць у СССР. Сёння ён з'яўляецца галоўнай ВНУ Літоўскай рэспублікі.

Але адараваць гісторыю Almae academia et universitas Vilensis ад беларускай інтэлектуальнай традыцыі немагчыма. Можна адправіцца ў Вільню, прайсціся пад урачыстымі зводамі ўніверсітэцкага касцёла св. Яна, па скляпеністых памяшканнях старадаўніх залаў, завітаць у бібліятэку.

А можна прыгадаць, што ў Беларусі дагэтуль няма прызнанага агульнага дня студэнта. Тое, што нараджэнне вышэйшай школы ў ВКЛ прыпадае на знакаміты дзень смеху, ці «дзень дурня», надае патэнцыйнаму студэнцкаму святу асаблівых колераў. Жыццесцвярджальная весялосць, іронія і самаіронія хіба не ўласцівыя маладосці? У XVI стагоддзі, як, зрэшты, і раней, і пазней, першакурснікам, «жаўтаротым» — «беанам» (з лацінскага bec jaune) даводзілася перажываць жартаўлівыя атрэсіны, ці прысвячэнне ў студэнты.

Ці далучыцца 1 красавіка да святочных традыцый — датычыць толькі выбару формы памяці пра заснаванне найстарэйшага нацыянальнага ўніверсітэта 435 год таму.



Вялікі двор Віленскага ўніверсітэта. Альбом Вільчынскага, літаграфія, 1850

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 435

Падпісана да друку 04.04.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.